*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі!* Францішак БАГУШЭВІЧ.

# наша СЛОВА




№ 2 • КРАСАВІК • 1990. Бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Цана 20 кап.

*Мацей БУРАЧОК*

*...Мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая. Чытаў я ці мала старых папераў па дзвесце, па трыста гадоў таму пісаных у нашай зямлі і пісаных вялікімі панамі,а нашай мовай чысцюсенькай, як бы вот цяпер пісалася. Увідзеўшы гэта, я часта думаў: божа ж мой, божа! Што ж мы за такія бяздольныя?!*

*...Пабратымцы нашыя... маюць па-свойму пісаныя і друкаваныя ксёнжачкі і газеты, і набожныя, і смешныя, і слёзныя, і гісторыйкі, і баечкі; і дзеткі іх чытаюць так, як і гавораць, а ў нас як бы захацеў цыдулку ці да бацькі лісток напісаць па-свойму, дык можа б і ў сваёй вёсцы людзі сказалі, што «піша памужыцку», і як дурня абсмяялі б! А можа і сапраўды наша мова такая, што ёю нічога добрага сказаць, ні напісаць не можна? Ой, не! Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам, і гаворым жа мы ёю шмат і добрага, але так ужо мы самі пусцілі яе на здзек...*

*Ці ж ужо нам канечне толькі на чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але наперш трэба знаць сваю.*

З «Прадмовы» да «Дудкі Беларускай»

Пётра Сергіевіч. Партрэт Францішка Багушэвіча. 1946 г.

Максім ТАНК

# РОДНАЯ МОВА

З легендаў і казак былых пакаленняў,
З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,
З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,
З грымучага ззяння бурлівых крыніц,
З птушынага шчэбету, шуму дубровы
І з гора, і з радасці, і з усяго
Таго, што лягло назаўсёды ў аснову
Святыні народа, бяссмерця яго,—
Ты выткана, дзіўная родная мова.

Няма на зямлі таго шчасця і гора,
Якога б ты нам перадаць не магла.
Няма такіх нетраў, глыбокага мора
І гор, праз якія б ты не правяла
Мяне на радзіму, туды, дзе сягоння
Стаіць акрываўлены вораг з пятлёй
Над спаленай хатай, над родным загонам,
Над будучыняй і над песняй маёй,—
Над тым, што было і што век будзе вольным.

Народ пранясе цябе, родная мова,
Святлом незгасальным у сэрцы сваім
Праз цемру і годы змаганняў суровых.
Калі ж ападзе і развеецца дым
І нівываскросшыя закаласяцца,—
Ізноў прашуміш ты вясновым дажджом,
Ізноў зазвініш ты у кожнай у хаце,
Цымбалам дасі іх сярэбраны гром
І вусны расквеціш усмешкай дзіцяці.

1943.

# Наша мова для нас святая

Дваццаць шостага студзеня 1990 года адбылася гістарычная сесія Вярхоўнага Савета БССР: на ёй быў прыняты закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб мовах у Беларускай ССР.

Тройчы за час гэтай сесіі было згадана імя славутага змагара за родную мову, адраджэнца канца XIX стагоддзя, аўтара «Дудкі Беларускай». Дэпутаты нагадвалі сесіі, народу яго палымяны наказ з славутай «Прадмовы» да «Дудкі Беларускай».

Хто ж былі гэтыя дэпутаты, якія прыйшлі на сесію з думкамі пра песняра? Для каго з іх яго словы гарэлі жывым агніскам у той гістарычны момант?

Гэта былі — настаўніца смаргонскай школы Н. С. Пашкоўская, віцэ-прэзідэнт АН БССР І. Я. Навуменка, сакратар Мінскага гаркома партыі П. К. Краўчанка.

Што ж яны сказалі, у якіх варунках прыгадалі паэтава імя?

П. К. Краўчанка: «Я хачу, каб кожны з вас яшчэ раз добра зразумеў гістарычную адказнасць за лёс закона, будучыню народаў. Сімвалічна, што яго вы маеце магчымасць прыняць у год, калі ўвесь свет, усе братнія славянскія народы будуць святкаваць 500-годдзе з дня нараджэння вялікага сына Беларусі: выдатнага асветніка, навукоўца і першадрукара — Францішка Скарыны. Хацелі б мы гэтага ці не, але яго гістарычная постаць нябачна стаіць тут, сярод нас. Як і постаць Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, А. Чарвякова і М. Галадзеда, рускіх А. Крыніцкага і П. Панамарэнкі, якія з надзеяй глядзяць на нас і, здаецца, гавораць: «У добры шлях!»

І давайце таксама не будзем забываць XIX ст.— вытокі сучаснай нацыянальнай самасвядомасці. Мне здаецца, што з памярцвелых вуснаў Францішка Багушэвіча зноў і зноў зрываецца як заклік адно і тое ж: «Не адракайцеся ад мовы, не цурайцеся яе».

Н. С. Пашкоўская: «Некалькі месяцаў мы ўсенародна абмяркоўвалі праект Закона, а сёння мы павінны прыняць Закон. Быў час выказаць усім жадаючым свае прапановы, сваё меркаванне. Гэтыя меркаванні самыя розныя. Адны лічаць, што беларуская мова зусім непатрэбная, хопіць і рускай, альбо заклікаюць да двухмоўя, другія выказваюць сваё абурэнне і настойліва вядуць барацьбу за тое, каб беларуская мова стала дзяржаўнай у нашай рэспубліцы.

Што да мяне, то я свае думкі аб мове хачу выказаць паэтычнымі радкамі:

Беларуская мова.
Як хлеб, паветра і вада,—
Жыцця першааснова.
Мне, радасць прыйдзе ці бяда,—
Патрэбна гэта мова.

Я таксама люблю і вялікую рускую мову — мову вялікага рускага народа.

Але ж хочацца нагадаць і словы нашага славутага земляка Ф. Багушэвіча: «Яно добра, а нават і трэба ведаць суседскую мову, але найперш трэба ведаць сваю».

А ці праўда гэта, што наш народ не ведае, адрокся ад сваёй мовы? Не, няпраўда. Большая частка нашых людзей размаўляе на беларускай мове.

Навуменка І. Я.: «У друку і сярод нас, дэпутатаў, ды і не толькі дэпутатаў, я чуў шмат галасоў, што вяртанне беларускай мовы — рэч непатрэбная, нават шкодная, яно будзе толькі тармазіць прагрэсіўнае развіццё навукі і культуры. Маўляў, адбыўся аб'ектыўны працэс, большасць насельніцтва Беларусі гаворыць па-руску, і нічога тут не зробіш.

Але ж гэта — так званы нацыянальны нігілізм. Ён далёка не бяскрыўдны, нават шкодны. Знікненне мовы, як паказвае практыка, вядзе да знікнення ўсёй культуры. Бо калі не будзе беларускай мовы, то, значыць, не будзе беларускай песні, танца, не будзе беларускага жывапісу, архітэктуры. Усе гэтыя рэчы ўзаемазвязаныя.

Я прывяду прыклад. Да 500-годдзя Скарыны некальком групам скульптараў быў заказаны помнік беларускаму першадрукару, але ні адна група не здолела прадставіць на конкурс ніводнага прымальнага праекта. Чаму так атрымалася? На маю думку, па той простай прычыне, што ў душах, сэрцах мастакоў, якія ўзяліся за гэты помнік, не было і няма адпаведнай ідэі. А без такой нацыянальнай ідэі не можа быць у мастака творчых крылаў. На жаль, не будзе помніка і да юбілею другога нашага класіка — Багушэвіча. Прычына тая самая.

Адрыў ад народнай нацыянальнай глебы прывёў да таго, гэта таксама ісціна, што вельмі сціплымі аказаліся дасягненні нашага тэатра, літаральна нічым не можа пахваліцца архітэктура».

Тое, што Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы прыняты ў юбілейны год Ф. Багушэвіча,— надзвычай важна, шматзначна. Якраз пра гэта марыў Багушэвіч, за гэта змагаўся, калі пісаў сваю агністую «Прадмову» ў 1890 годзе. Спатрэбілася цэлая сотня гадоў, каб яго мара стала рэчаіснасцю.

Між іншым, першыя радкі «Закона аб мовах у Беларускай ССР» сугучныя з Багушэвічавай прадмовай. Тут амаль даслоўна перададзены і яго клопат пра родную мову і пра мовы іншых народаў. Гэта ён пісаў: «не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Пазнаюць жа людзей ці па гаворцы, ці па адзежы, хто якую носе, ото-ж гаворка, язык і ёсць адзежа душы».

Амаль з гэтых жа слоў пачынаюцца і першыя радкі «Закона аб мовах у Беларускай ССР».

«Мова — не толькі сродак зносін, а і душа народа, аснова і важнейшая частка яго культуры,— гаворыцца ў Законе.— Жыве мова — жыве народ».

Словы гэтыя гранічна ясныя, выразныя і ніякіх каментарыяў не патрабуюць. Яны выпакутаваныя і песняром, і яго народам.

Уладзімір СОДАЛЬ.

# НЕЗРАЗУМЕЛА, КРЫЎДНА І СТРАШНА

Перабудова набірае моц. Пакрысе пачалі абмяркоўвацца ўсе без выключэння бакі нашае рэчаіснасці. Нарэшце наспела магчымасць ўзняць важную, другую пасля чарнобыльскай, праблему роднай мовы, культуры і гісторыі. Сцісла, на ўзроўні эмоцый, выкладу свае назіранні з жыцця роднага горада і раёна.

Мне незразумела, чаму на ўвесь гарадок існуюць толькі дзве беларускамоўныя шыльды — на чыгуначнай станцыі ды на будынку рэдакцыі «Праменю камунізму», хаця на кожным кроку трубім пра гарманічнае беларуска-рускае двухмоўе. Я ўжо не кажу пра надпісы і аб'явы. Хтосьці скажа: гэта будзе нязручна для гасцей з іншых рэспублік. Дык на гасцей мы арыентуемся ці на саміх сябе?

Мне незразумела, куды падзеліся беларускамоўныя ўказальнікі населеных пунктаў, што існавалі ў 70-я гады? На ўвесь раён ёсць адзіны такі ўказальнік: «Віцебская вобласць» на шэрай пліце на мяжы БССР і РСФСР за Езярышчам (не будзем удакладняць, чыя ў гэтым заслуга). А ёсць жа ў нас на Віцебшчыне і станоўчыя прыклады — беларускамоўныя ўказальнікі ў Чашніцкім раёне.

Мне незразумела, чаму я, грамадзянін БССР, не магу ў сваім горадзе набыць і адправіць паштоўку ці канверт, або тэлеграму па-беларуску?

Мне незразумела, чаму ў трынаццацітысячным беларускім горадзе няма ніводнай беларускай школкі? У сямідзесятыя гады такая школа была. Да вайны, акрамя рускай ды беларускай, была школа яўрэйская. А артыкул адпаведнага закону цвердзіць аб свабодзе выбару мовы навучання. Які ж тут выбар, калі няма з чаго выбіраць?

Мне крыўдна, што школьны настаўнік беларускай мовы за адну і тую ж колькасць гадзін зарабляе менш за свайго «рускамоўнага» калегу. І гэта няўмольны і ганебны факт.

Мне крыўдна, калі ў гутарцы з афіцыйнай асобай «зверху» мы сарамліва намагаемся (часам без поспеху) пазбавіцца беларускіх слоў і акцэнту. Што, наша гаворка менш мілагучная ці якая ніжэйшая? Ці можа мы ў чым вінаватыя перад той афіцыйнай асобай?

Мне крыўдна, калі дзеці, якія збольшага авалодалі наборам рускіх слоў (духоўна не ацеплены, лексічна і фразеалагічна зБеднены набор яшчэ не ёсць мова), саромеюцца сваіх родных бацькоў, якія гавораць на руска-беларускай сумесі. Савецкі паэт Мікалай Дарызо пісаў:

Я не хочу, чтоб Пушкина язык,
Язык Некрасова, Тургенева, Толстого,
Как бы красив он ни был и велик,
Заменой стал бы языка другого.

.........................................................................

Любой язык по своему велик —
Бесценное наследство вековое.
Так берегите свой родной язык
Как самое на свете дорогое!

Мне крыўдна, калі падчас святочнай дэманстрацыі мая суайчынніца звяртаецца з прамовай да людзей на роднай мове, а ў натоўпе мардатых дзецюкоў усчынаецца вар'яцкі рогат.

Мне крыўдна, калі партыйны кіраўнік калгаса пачынае сваю ідэалагічную дзейнасць з таго, што прыходзіць да дырэктара школы і ласкава «прапануе» яму перавесці школу на рускую мову.

Мне крыўдна і смешна з такога дзікунства, калі гэты ж кіраўнік, пачуўшы ад свайго малога сына адно слова «дзякуй», бяжыць у дзіцячы садок лаяцца і даводзіць, што яму «не нужен этот белорусский язык».

Мне незразумела, чаму той, хто толькі жыве на нашай адвечнай раздзіме, а не жадае нічога чуць пра яе мову, культуру, гісторыю, часам лічыць сябе патрыётам? Бывае, што чалавек не па сваёй волі не ведае сваёй мовы — дык гэта можна назваць няшчасцем, хіба што, не любіш беларускую мову — то чаму любіш беларускую бульбу і беларускае сала?

Мне незразумела, чаму той, хто пагарджае мовай майго народа, напышліва называе сябе інтэрнацыяналістам? Хіба інтэрнацыяналізм у тым, каб разумець толькі адну мову і патрабаваць, каб усе звярталіся да цябе менавіта на ёй? «Інтэрнацыяналізм» — гэта ж «інтэрнацыё», а не «без нацыё». Ведаеш толькі адну мову — не кажы, што інтэрнацыяналіст. Не хочаш ведаць мовы свайго народу — не кажы, што патрыёт.

Мне незразумела, чаму паўсюдна асуджаецца нацыяналізм і ў той жа час не даецца ацэнкі нацыянальнаму нігілізму — не менш агіднай і небяспечнай з'яве, калі чалавек, ці, дакладней, індывід, бэсціць і прыніжае матчыну мову і ўвогуле ўсё роднае? Калі сёння такі ацураўся сваёй мовы, заўтра ацураецца радзімы — гэта закон.

Мне крыўдна, калі напалову адукаваная пігаліца асмейвае нашы нацыянальныя строі — вышыванкі, штаны і андаракі.

Мне крыўдна, што мы ўсё яшчэ вывучаем гісторыю БССР па нікчэмнаму падручніку Абэцэдарскага, засвойваем яго хлуслівыя стэрэатыпы і, як вынік, не ведаем уласнай багатай гісторыі.

Мне сорамна, што з дапамогай згаданага падручніка мы прывучаемся глядзець на суседзяў-літоўцаў як на сваіх колішніх ворагаў і прыгнятальнікаў. А ў нас жа двойчы была агульная дзяржава — Вялікае княства Літоўскае, рускае і жамойцкае і пасля рэвалюцыі — Літоўска-Беларуская ССР!

Мне сорамна, што мы занядбалі сваю дзяржаўную і нацыянальную сімволіку. Флюгер з зубрам на воданапорнай вежы ў гістарычным цэнтры горада — гэта экзатычна, толькі лепш бы там красаваўся наш старажытны герб.

Мне сорамна, што мы нічога не ведаем пра сваіх славутых землякоў. А беларусамі ж былі і заснавальнік усходне-славянскага кнігадруку, і герой «народнай волі», і генерал Парыжскай камуны, і айцы чылійскай навукі і якуцкай літаратурнай мовы, і нават вынаходнікі субмарыны і верталёту.

Мне смешна і зусім не смешна, калі той суразмоўца ў адказ на здзіўленне, што ён не ведае Васіля Быкава, буйным рогатам дэманструючы дурасць сваю, апраўдваецца: «А я затое ведаю, хто такі Пушкін».

Я спрабую адказаць на свае ж пытанні, і адказ крышталізуецца ў лагічнай формуле: без мовы няма культуры, без культуры няма гісторыі, без гісторыі няма народу.

Без мовы — няма народу. Мы не ведаем сваёй мовы — і не адчуваем сваёй генетычнай еднасці, як адчуваюць яе літоўцы, палякі, англічане, французы. І ўзрастае на нашай зямлі гарадоцкай агідная свалата, якая апаганьвае магілы. І ў галаву ёй не прыходзіць, што здзекуецца яна з касцей сваіх жа крэўных суайчыннікаў. А ад проста суайчыннікаў ужо блізка да ўласных бацькі і маці. І гэта ўжо не смешна і не дзіўна. Гэта страшна.

Мы — беларусы. Нават тыя з нас, хто не належыць да беларускай нацыянальнасці, усё роўна належаць да беларускай нацыі. Сем стагоддзяў змагаліся мы за права называцца народам і захоўвалі мову сваю.

.... Бо што бачылі госцікі-гэрцы —
І зямлю, і лясы, і кілімы —
Ўсё забралі. А мову — у сэрцы,
Ў сваім сэрцы хавалі — няслі мы.

Так пісаў наш паэт Алесь Гарун. Што сказалі б сёння князь Усяслаў, Скарына, Багушэвіч, Багдановіч? Што сказаў бы Кастусь Каліноўскі, які за Беларусь і яе народ скончыў жыццё на шыбеніцы?

Ул. Караткевіч пісаў пра нашу «зямлю пад белымі крыламі»:

Там звіняць неўміручыя песні на поўныя грудзі,
Там спрадвеку гучыць мая мова — булатны клінок.
Тая гордая мова, якую й тады не забудзем,
Калі сонца з зямлёю ў апошні заглыбяцца змрок!

«Не забудзем...» Калі не здолеем захаваць нашу мову, дык давайце прызнаем, што ніякая мы не нацыя (бо прыкметы нацыі — агульныя тэрыторыя, эканоміка і мова), а купка прыстасаванцаў, якія выракліся свайго, ды так і не засвоілі суседскае.

Наша мова зноў стане дзяржаўнай, як было гэта і 500, і 400, і 300 гадоў таму, і яшчэ ў 20—30-я гады нашага стагоддзя.

Кожны з нас — і ты, і я, і ён, і яна — асабіста адказны за лёс роднай мовы. І калі гэтае пытанне абавязкова паўстане на сёлетнім жніўеньскім педсавеце — дык усвядомім жа гэта і зробім усё, што ад нас залежыць. Бо сапраўдны настаўнік-інтэлігент жыве і працуе не толькі для сённяшняга, але і для заўтрашняга дня. І нашчадкі, а не кан'юнктуршчыкі дадуць ацэнку ягонай працы.

Уладзімір СЛАБІН,
г. Гомель.

Тадэвуш **КАНВІЦКІ**

# БЕЛАРУСЬ, БЕЛАРУСЬ...

...Чым я абавязаны Беларусі? Абавязаны ёй тым, што дагэтуль не ўмею добра пісаць па-польску, што назаўжды прывабіла маё вуха, што сваёю мелодыкаю заглушыла тую пястоўскую, сандомірскую ці келецкую інтанацыю, якою я авалодваю, авалодваю і ніколі ўжо не авалодаю. Абавязаны ёй тою настальгіяй, якая хапае мяне за рэшткі чупрыны сярод белага дня ў Варшаве, у Парыжы або ў Манхэтане. Абавязаны ёй тым вярэдлівым неспакоем, які гоніць і гоніць мяне кудысьці, хоць я стаю на месцы, гоніць кудысьці, куды я баюся трапіць, але нарэшце мушу трапіць туды.

Беларусь, Беларусь. Чаму ты завешся Беларуссю, калі няма ў цябе белізны, калі белізна твая — гэта рудыя восеньскія пожні, калі белізна твая — гэта сувоі шэрага палатна, разасланыя пад сонцам, калі белізна твая — гэта гарачы пот спрацаваных людзей. Ты павінна звацца Добраруссю, павінна звацца Добраю Зямлёю Добрых Людзей.

Мае вочы напоўнены Беларуссю. Я гляджу на Правансаль і бачу пагоркі каля Ашмянаў. Я гляджу на Дунай і бачу Нёман, бачу заімглёны ціхім смуткам другі бераг Нёмана. Гляджу на аўтастраду ў Лос-Анжэлесе і бачу санную дарогу паблізу Гудагая, чую шоргат зледзянелых снегавых крыгаў, чую едкі пах конскага поту, уяўляю чырвонае вакенца самотнае хаты пад вялізнаю гурбаю снегу, адзінага і натуральнага багацця гэтае зямлі.

Як жа я размаўляў у маленстве? Ці «па-простаму», ці «па-гарадскому»? Якіх слоў, казак, песень чуў я болей — беларускіх, ці польскіх? Колькі разоў і калі перасягаў я тую невідочную мяжу паміж беларускасцю і польскасцю?

Не ўрэзалася ты ў людскую памяць, Беларусь. Не адбірала ты ў іншых іхняе вольнасці, не рабавала чужое зямлі, не губіла людзей з-за спрэчак з суседзямі на межах. Ты мела павагу да чужых і гасцінны каравай, аддавала рабаўнікам апошнюю карову і апошні акраец хлеба са знакам крыжа, аддавала гаротным кроваброчнае сэрца і сваё беднае, бязрадаснае жыццё.

У канцы вайны жыццё маё было выратавана ў беларускай хаце. Простыя людзі, не маладыя і не старыя, звычайныя сяляне, учарнелыя ад цяжкае працы, відаць анальфабэты, калі зважаць на пісьменнасць, і прафесары, калі зважаць на веданне псіхалогіі і чалавечых лёсаў, гэтыя простыя людзі ўратавалі мне, васемнаццацігодку, жыццё, падаравалі на благое і добрае ўсе тыя гады, якія я з высілкам адграбаў за сябе. Яны усцераглі мяне, можа, ад смерці, а можа, ад шматгадовага жывёльнага існавання, ад такога лёсу, пра які я з жахам думаў у бяссонныя ночы...

Калі я прыгадаю беларускае слова, калі падзьме вецер з паўночнага ўсходу, калі ўбачу палатняную, сціпла вышытую кашулю, калі пачую крык болю без скаргі, заўжды мацней заб'ецца маё сэрца, заўжды падкрадзецца аднекуль ціхі смутак, заўжды падплыве раптоўны холад невыразных дакораў сумлення, адчуванне вінаватасці і сараматы.

Беларусь, Беларусь, шэразялёная з агромністым небам над бяляваю галавою, ты надзвычай добрая, надзвычай лагодная, надзвычай высакародная, як на наш час.

Пераклаў з польскай А. Траяноўскі.

Норберт **РАНДАЎ**

Беларуская мова была моваю двара і канцылярый Вялікага княства Літоўскага, якое адыгрывала вядучую ролю ў гісторыі Усходняй Еўропы з чатырнаццатага да другой паловы шаснаццатага стагоддзя.

* * *

Гучыць амаль неверагодна: у немцаў на сённяшні дзень няма ні падручніка, ні граматыкі, ні нават слоўніка мовы васьмімільённага народа, краіна якога належыць да ліку заснавальнікаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

(Прадмова да анталогіі беларускага апавядання «Малады дубок»).

Пераклад з нямецкай.




Бюлетэнь «Наша слова» можна набыць у «Кнігарні пісьменніка». Фота Ул. Крука.

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ*

# З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ «ТРАСЯНКІ»

Слова трасянка ў «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» мае значэнне «стрэсенае сена з саломай, якое ідзе на корм жывёле». У апошні час яно набыло і пераносны сэнс, што, аднак, нашыя слоўнікі яшчэ не зафіксавалі. І ў гэтым пераносным значэнні слова становіцца ўсё больш ужывальным у працэсе барацьбы за адраджэнне беларускай мовы. Адпаведная моўная з'ява пад іншай, агульнапрынятай назвай «макаранізм» так тлумачыцца ў «Слоўніку лінгвістычных тэрмінаў» В. С. Ахманавай: «Слова (або выраз) іншай мовы, якое механічна ўносіцца ў маўленне з непазбежным скажэннем яго гукавой формы і натуральнага кантэксту, што надае яму гратэскны характар». Зразумела, гэтае азначэнне не ахоплівае ўсіх праяўленняў згаданай з'явы, тым не менш дапамагае зразумець, пра што ідзе гаворка. Паколькі наша мова ў мінулым неаднаразова выцяснялася функцынальна і разбуралася структурна, зараз нам здаецца вельмі актуальным разгледзець гісторыю беларускай трасянкі, што, магчыма, падкажа, як з ёй змагацца.

Як паказвае гістарычны вопыт, мова ператвараецца ў трасянку тады, калі яна знаходзіцца ў вельмі неспрыяльных для свайго функцыянавання абставінах. Самы ранні ўзор «трасянкі» належыць перапісчыкам жыцій святых. Паколькі, пачынаючы з Ягайлы вялікія князі літоўскія былі католікамі, яны не звярталі ўвагі на справы праваслаўнай царквы, і апошняя разам са сваёй афіцыйнай царкоўнаславянскай мовай паступова прыходзіла ў заняпад. Рэдкасць спісаў царкоўнаславянскіх кніг таго часу сведчыць аб тым, што знаўцаў мовы праваслаўнага набажэнства ў старажытнай Беларусі было ўвогуле нямнога. Гэта ўскладняла кантакт паміж пастырамі і прыхажанамі і прымушала першых гаварыць з паствай «па-просту». А паколькі цалкам перайсці на беларускую мову ў царкве тады было б святатацтвам, у свяшчэннікаў выпрацоўвалася царкоўнаславянска-беларуская «трасянка». Ёю карысталіся і манахі пры перапісцы царкоўных кніг. Адной з такіх кніг з'яўляецца перапісаная нейкім Бярозкам з Навагрудка ў 1489 г. Чэцця, якая захавалася да нашага часу. У ёй сярод царкоўнаславянскіх выразаў на кожным кроку трапляюцца тыпова беларускія. Вось некаторыя ўрыўкі з яе: лежаше с(ве)тый Семеонъ на постели своей и (8) дней в немоци великой; моуч(е)н(и)къ же х(ри)с(то)въ Никита сию страсть притерпевъ от безаконныхъ, похвалилъ г(оспод)а б(ог)а рекоучи бл(а)годарю тя г(оспод)и б(ож)е мои яко младая моя кость железомъ погибае; свесиша е старцовь вжищемъ оу стоуденець; змуровалъ собе камениемъ мало местьце і інш. Гэтая ж прычына — заняпад царкоўнаславянскай мовы, а таксама ўласцівае рэфарматарам імкненне данесці да народа поўны тэкст свяшчэннага пісання на зразумелай мове, прымусіла і нашага славутага палачаніна Францыска Скарыну перайсці на царкоўна-славянска-беларускую «трасянку». Вось урывак з кнігі Суддзяў, гл. 15: Тогда идоша филистымляне и спалиша жену Самсонову и отца ея. Имъ же рече Самсонъ: Ачкольве есте сее уделали, прото еще буду ся мстити над вами. И потомъ почию. И поразилъ есть ихъ по сем Самсонъ раною великою вельми, такъ иже боячися его корчилися и лытки свое ко стегномъ пригибали.

Апынулася пасля Люблінскай дзяржаўнай уніі 1569 года ў становішчы заняпаду і беларуская мова. Цяпер папольску гаварылі не толькі прадстаўнікі каралеўскай улады, але і беларускія феадалы. У такіх умовах беларуская служылая дробная шляхта вымушана была пераймаць маўленчую манеру тых, хто меў уладу. Не будучы ў стане, як прадстаўнікі неапалячанага простага люду цалкам адмовіцца ад роднай гаворкі, яны вымушаны былі ў размове з панамі перасыпаць яе польскімі выразамі. У выніку атрымлівалася беларуска-польская трасянка. Звычка гаварыць на «трасянцы»стanавілася настолькі моцнай, што на ёй нават пісалі. Вось урывак з «Успамінаў» тыповага прадстаўніка дробнай шляхты навагрудскага падсудка Фёдара Еўлашоўскага: «в стодоле ночуючи обачилэмъ южъ на свитаню в избе огнистого чловека до кторекго кгдымъ се порвалъ, онъ тэжъ до мне выстэмповалъ, шедшисродъ избы порвалэмъ въ запаля ноже и ударилэмъ, на нь, а онъ, зникнувши, зась се былъ въ тымъ же конте указалъ и зновон до мне шедлъ, а я чапконъ рутилэмъ на нь». «Успаміны» Фёдара Еўлашоўскага — адна з самых трагічных старонак гісторыі нашай роднай мовы, калі яна была на грані дэградацыі з прычыны моцнага ўплыву польскай мовы.

Вялікае княства Літоўскае і рэч Паспалітая доўгі час знаходзіліся ў стане вайны з Маскоўскай дзяржавай. Такія складаныя адносіны вымагалі частых абменаў пасольствамі. Відаць, менавіта недражалюбныя узаемаадносіны дзвюх дзяржаваў з'явіліся прычынай таго, што беларускія паслы спецыяльна не вывучалі рускай мовы. Звяртаючыся да прадстаўнікоў царскай улады, яны гаварылі па-беларуску, перасыпаючы сваю мову русізмамі. Атрымлівалася беларуска-руская трасянка. Узорам яе з'яўляецца, напрыклад, «Ліст літоўска-польскіх паслоў маскоўскім царскім паслам» (1615 г.): «писали есьмо не по одинъ разъ ко князю Ивану Андреевичу Хованскому, который острожком стоить на господаря нашого земли Смоленское, имена наши объявляючи и про васъ спрашиваючи; да и о томъ есьмо писали, штобъ онъ в земли господаря нашого съ людьми прочъ шолъ и зачепки никоторое людемъ королевского величества не чинилъ, а мы потому жъ войску короля его милости крепко приказали, штобъ зачепки людемъ Московского господарства не делали». Калі б аўтары гэтага ліста пісалі адзін да аднаго, то, напэўна, напісалі б не *спрашивати, крепко, делати*, а *пытати, моцно, чинити*.

У XVII ст. пад уплывам Польшчы ў Беларусі развіваецца культура барока. Асноўная рыса гэтай культуры — вычварнасць. Вычварнымі станавіліся архітэктура, адзенне, ежа, мова. Тады ж, у XVII ст. па прыкладзе Польшчы ў Беларусі ўзнікла мода перасыпаць мову лацінскімі выразамі. Так узнікла беларуска-лацінская трасянка. У ахвяру бясспрэчнаму аўтарытэту латыні прыносілася родная мова. Вось урывак з дакумента, напісанага беларуска-лацінскай трасянкай: «...уподобанья своего модисъ иниквисъ щекгульною присегою вытравіць и собе привлащить усилуеть што же яко контра омниа юра кардиналіа етъ натураліа деется// и того евидентиссиме документисъ етъ инструментисъ автентицисъ доведши и на оно указавши...»

І вось у выніку трох падзелаў Польшчы Беларусь была далучана да Расіі. На змену польскім асімілятарам прыйшлі рускія. Будучы забароненай, беларуская мова не магла нармальна развівацца, і таму ў рэдкіх беларускамоўных выданнях, якія ўсё ж выходзілі, было многа русізмаў. На жаль і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі пад прыкрыццём сталінска-брэжнеўскай тэорыі зліцця нацый працягвалася дэнацыяналізацыя беларусаў. Змяншалася колькасць беларускамоўных выданняў, школ. Не вытрымліваючы канкурэнцыі з рускай мовай, якая атрымлівала ўсё мацнейшыя пазіцыі ў грамадстве, беларуская мова ўсё больш нявечылася яе ўплывам. Нават зараз, калі памылковасць згаданай тэорыі ўжо даказана, старыя асімілятарскія настроі досыць адчувальныя. Носьбіты гэтых настрояў свядома ці не свядома насычаюць беларускую мову неапраўданымі русізмамі. У выніку наша мова няўхільна губляе сваю адметнасць, паступова ператвараючыся ў мясцовы варыянт рускай мовы, г. зн. выцясняецца знутры. Прыкладаў навейшай беларуска-рускай трасянкі можна ўдосталь наслухацца на вуліцы. І пакуль яна не выцесніла беларускую мову, трэба аб'явіць ёй рашучую вайну. Лячэнне хваробы, як вядома, пачынаецца з устанаўлення дыягназу.

Сяргей ДУБАВЕЦ.

# ЖЫВЫ ДУХ МОВЫ — СУЛАДНАСЦЬ

Мова — гэта мысленне. А калі замест мовы — трасянка, тады замест мыслення — што?

Трасянка — плён палітыкі білінгвізму. Гэта — тое, што адбываецца ў роце. А што адбываецца ў галаве? Бімысленне? Бімаральнасць?

У грамадстве ўстанаўліваецца біэканоміка (светлая і ценявая, двайная бухгалтэрыя), біпалітыка (дэкларацыя — адно, рэальнасць — іншае) і ўсё астатняе — бі. Такое адчуванне, што ўсё жывое ў нас імкнецца сказаць адно, а зрабіць іншае — ашукаць бліжняга. Альбо — падумаць адно, а зрабіць іншае,— ашукаць сябе. І гэтае «бі» цалкам адпавядае прыдомку «ілжэ», альбо проста па-беларуску — хлусня.

Узнікае трасянка па-ўсялякаму. Вось тры прыклады:

1. Штодзённая абласная партыйная газета «Гомельская праўда» (можна — «Віцебскі рабочы», можна — «Магілёўская праўда»). 40 работнікаў гэтай газеты ніколі не гавораць і не думаюць па-беларуску. Пішуць, адразу перакладаючы сябе з рускай мовы (альбо перакладае машыністка, якая таксама ніколі не думае і не гаворыць па-беларуску). Аўтарытэт у спрэчных сітуацыях — руска-беларускі двухтомнік, дзе рускае слова, як правіла, перакладаецца двума словамі — беларускім і трасянкай...

Тое самае — у рэспубліканскіх газетах і ў раёнках.

Тое самае на радыё і тэлевізіі.

Тое самае на БЕЛТА.

2. Стыхійны шлях. Вясковы чалавек прыехаў у горад ці на вёсцы ўдае з сябе работніка «умсцвеннага труда». Рот у яго яшчэ беларускі, а словы нібыта рускія. «Павышаіт праізводсцвенныя паказацелі».

А бывае наадварот. У аўтобусе: «Ваша сумка мне мулит». «Цяпер не муліць?» Вот теперь не мулит».

3. Сярод тых, хто ведае мову, але настолькі добра, што ўжо можа «дазволіць сабе»: да, вот іменна, харошы друг, эта... Адзін надта шчыры беларус кажа: «Эта нікуда не гадзіцца!»

Асабіста я не супраць рускага з паходжання слова ў беларускай мове. Хай прыходзіць і нямецкае, і кітайскае. Але пры адной умове — павінна захоўвацца беларуская моўная гармонія. Бо разбураецца мова не праз лексіку і сінтаксіс, а менавіта праз суладнасць.

І ў школах я б выкладаў не граматыку мовы, а яе гармонію з дапамогай граматыкі. І адраджаць ды берагчы нам трэба не лексіку з сінтаксісам (гэта ўвогуле задача навукі, якая можа працаваць і з мёртвай мовай), але суладнасць, самы дух жывы.

Гэтага духу зусім няма ў сучасных перакладных ды ў тлумачальных слоўніках. А ёсць ён у Багушэвіча, у Купалы, у Гарэцкага, у Арсенневай, у Насовіча, у Ластоўскага.

Думаю, што на нейкі час нам трэба адмовіцца ад нарматываў. Вось жа менавіта праз адмаўленне мёртвых нарматываў сотні маіх аднагодкаў прыходзілі да жывое мовы. Трэба ісці ад духу — праз індывідуальную, інтымную, нават навуковую творчасць. І калі будзе напрацаваны пэўны матэрыял, калі выкрышталізуюцца каноны, тады, магчыма, іх і трэ будзе ўзаконіць.

А пакуль — невялічкі трасянка-беларускі слоўнік, пэўная карэкцыя па духу. Перадусім — для работнікаў друку (усе словы на трасянцы я і выпісаў з друку), якія карыстаюцца мовай фіктыўна, не думаючы пра яе суладнасць, пра яе патэнцыяльную прыгажосць.

## МАТЭРЫЯЛЫ ДА ТРАСЯНКА- БЕЛАРУСКАГА СЛОЎНІКА

абавязацельства — абавязак
абслугоўваючы — абслуговы
адапціраваць — адаптаваць
адзіноцтва — адзінота
адпачываючы — адпачывальнік
адстаючы — адсталы
ажаніцца на кім? — ажаніцца з кім?
Акцябрскі — Рудабелка
алея — прысады
аліфа — пакост
аптэка — зельня
арамат — водар
асенні — восеньскі
афіцыяльны — афіцыйны
балельшчык — заўзятар
барэц — барацьбіт
бітком — бітма
Брэст — Берасьце
будучае — будучыня
буквар — лемантар
бюстгальтар — станік
бягучы (год) — гэты
ваеннаслужачы — вайсковец
варатар — брамнік
Вільнюс — Вільня
вот — вось
вуглавы — кутні
вывад — выснова
выходзячы (дакумент) — выходны
вышэйстаячы — вышэйшы, кіраўнічы
вясенні — веснавы, вясновы
вячэрні — вечаровы (адвечар)
вячэрні — адвячэра
граніца — мяжа
Гродна — Гародня, Гародзен
да — так
дабываючы — здабыўны
давер'е — давер
даныя — звесткі
Днепр — Дняпро
друг — сябра
вялікае дзякуй — вялікі дзякуй
ёлка — елка, яліна
жадаючы — ахвотны
жвачка — жуйка, гумка
завяшчанне — запавет, тастамант
загінуўшы — палеглы
займаемы (пост) — займаны
зарад (зброі) — набой
засядацель — лаўнік
зачастую — часцяком
здрадніцтва — здрада
землетрасенне — землятрус
зімні — зімовы
змяненне — змена
іменна — менавіта
існуючы — наяўны
кактэйль — трунак
каляска — вазок
капля — кропля
карабок — пушка
карандаш — аловак
каробка (цукерак) — пушка
Каўнас — Коўна
кафэ — кавярня
кашалёк — вацок
кіруючы — кіраўнічы
кляёнка — цырата
круг (сяброў) — кола
ледзь ці не — ледзь не
лятучая мыш — кажан
магазін — крама; кніжны — кнігарня
май — травень
Маладзечна — Маладэчна
меткі — трапны
Мінск — Менск
мінулае — мінуўшчына
мінута — хвіліна
на даму — дома
Навагрудак — Навáградак
наведвальнік — наведнік
накапіць (досвед) — назапасіць
нападаючы — нападнік
насілле — гвалт
напітак — напой
наспеўшы — наспелы
новаўвядзенне — павіна, навінка
ноўшаства — навіна, навінка
па адрасу — на адрас
пагранічнік — памежнік
палавіна — палова
памёршы — памерлы, нябожчык
пасуда — посуд
пасха — Вялікдзень
пацярпеўшы — пацярпелы
паявіцца — з'явіцца
пенсіённы — пенсійны
перапісвацца — ліставацца
пісьмо — ліст

поезд — цягнік
прадаставіць — даць
прадставіць — трэба будзе
прадстаўленне (тэатральнае) — паказ
прайшоўшы — мінулы
прамавугольнік — прастакутнік
прапанаванне — прапанова
прапануемы — прапанаваны
праяўленне — праява
прафесіянальны — прафесійны
прыём — прыймо
прыёмная — прыймовы пакой
прымета — прыкмета
пуць — каляіна
пяшком — пехатою, пешкі
пяшчотнасць — пяшчота
рабяты — дзеці, юнакі, моладзь, дзяўчаты і хлопцы, школьнікі, вучні, дзятва, хлопчыкі і дзяўчаткі...
рад — шэраг
радуга — вясёлка
размер — памер
растлумачэнне — тлумачэнне
расшыраць — пашыраць
раўнадушнасць — абыякавасць
раўнадушша — абыякавасць
рашаючы — вырашальны
ручка (пісаць) — асадка
рызіна — гума
рэзультат — вынік
савет — рада
савок — шуфлік
саіскальнік — спаборнік
сасок — смочак
састаў — склад
сачыненне — твор
скорасць — хуткасць
скоры — хуткі
служачы — службовец
спаборнічаючы — спаборнік
сярэдневяковы — сярэднявечны
тамада — маршалак
трохвугольнік — трохкутнік
тыраж — наклад
у адрас — на адрас
уваходзячы (дакумент) — уваходны
уехаць — паехаць, ад'ехаць, з'ехаць
узносы — складкі
уйсці — пайсці, адысці, з'ехаць
уляцець — паляцець, адляцець, зляцець
уноў — зноў
упаўне — цалкам, зусім
упраўленне — управа, кіраўніцтва
упраўляючы — кіраўнік
упушчэнне — памылка, хіба, загана
урач — лекар, доктар
урон — страта, шкода
учот — улік
факел — паходня
флаг — сцяг
флажок — сцяжок
Францыск — Францішак
фрукты — садавіна
хварэць чым? — хварэць на што?
ход — хада; у ходзе — у часе
худзець — худнець
хуткасны — спешны, хуткі
цыркуляр — абежнік
чай — гарбата
чайнік — імбрык
чамадан — валіза, валізка
чатырохвугольнік — чатырохкутнік
шагнуць — сягнуць
штрафны — карны
экзэмпляр — асобнік
язычніцтва — паганства
яйцо — яйка

# МОЎНАЯ БЕЗДАПАМОЖНАСЦЬ НА ЭКРАНЕ

Ці з'яўляецца «Праграма беларускага тэлебачання» нацыянальнай, беларускай? Ці нясуць яе хвалі той водар сапраўднай культуры і інтэлігентнасці, без якіх усё — мітусня, пошласць, падробка? Дзе, нарэшце, нашы выдатныя майстры літаратуры, адна сустрэча з якімі і свята, і школа духоўнасці?

Становішча з нашым тэлебачаннем толькі даказвае, што культура не існуе па-за нацыянальным. Што культура без нацыянальных каранёў проста перастае быць культурай. І вось перад намі паўстае прывід Элачкі Людаедкі, якая «спаборнічала» (чытай: малпавала) з заакіянскай мільянершай — фарбавала кошку пад каштоўнае футра, набывала крадзенае сіцечка, карысталася «мовай» з трыццаці слоў, якую цалкам можна назваць «інтэрнацыянальнай».

Уражанне выпадковасці і фарсавасці, бездапаможнасці і разгубленасці. Падобна да таго, што наша нацыянальнае тэлебачанне проста не знаходзіць у сабе моцы звярнуцца да культурных самабытных каранёў. Вядома, гэта няпроста. Але ж і нельга выйсці да самабытнасці без элементарнага: без нацыянальнай мовы.

І вось тут застаецца толькі здзіўляцца. Няўжо мы няздольныя падрыхтаваць некалькі чалавек — на ўсю рэспубліку! — вядучых беларускіх тэлепраграм, якія б размаўлялі на мове народа, на добрай беларускай мове?

Ды дзе там — на добрай, жывой, багатай!.. Хаця б нашы вядучыя былі здольныя хоць як-небудзь гаварыць па-беларуску!

Даходзіць да недарэчнасці. Вядучага адной з самых працяглых перадач беларускага тэлебачання «Маладзёжны тэлецэнтр» гледачы ў які ўжо раз пытаюць, чаму ён вядзе перадачу не на нацыянальнай мове — і ў які раз адказ яго зводзіцца да таго, што ён, маўляў... беларускую мову недастаткова ведае. Гэта называецца: сам сябе высек.

Недарэчнасць тут нават не ў тым, што менавіта нацыянальнай мовай не валодае вядучы нацыянальнага тэлебачання. Справа яшчэ прасцей: людзей якога культурнага і адукацыйнага ўзроўню прапануюць нацыі ў якасці вядучых.

Кожны афрыканскі студэнт, які вучыцца ў нас, валодае свабодна некалькімі мовамі,— і гэта натуральна. Вядучыя маскоўскіх перадач свабодна пераходзяць на замежныя мовы — мовы іншых моўных груп... А ў нас? Чаму такія мы не патрабавальныя? Прабачце, але не знайсці ў сабе здольнасці засвоіць другую, родную рускай мову — як назваць падобную культурную бездапаможнасць? Прыходзіцца гаварыць аб тым, што патрабаванні да ўзроўню вядучага на нашым тэлебачанні больш чым заніжаны. Гэта нават не правінцыялізм, бо ў любой, самай глухой правінцыі ёсць здольныя — хаця б да родных моў! — людзі.

Трэба заўважыць, што моўная бездапаможнасць адбіваецца і на валоданні той адзінай мовай, на якую чалавека хапіла. Цяжка ўзяць на сябе смеласць сказаць, напрыклад, што той жа І. Вінаградаў, вядучы «Маладзёжнага тэлецэнтра», карыстаецца добрай рускай мовай. У выніку — падае агульны культурны ўзровень вядзення перадачы: вядучы «корміць» нас зусім выпадковымі пытаннямі да ўдзельнікаў тэлеразмовы, заігрывае з нефармаламі, падыгрывае прадстаўнікам улады, цвердзіць пра «включения» — і перадача з сур'ёзнай, здаецца, тэмай ператвараецца ў нешта разшморганае, без той самай «унутранай ідэі» (і культуры, культуры!), без чаго не адбываецца ні духоўнай з'явы, ні публіцыстыкі.

І, нарэшце, усё заканчваецца непісьменнай, зняважлівай для цэлай нацыі заявай: маўляў, ён, І. Вінаградаў, лічыць наогул моўнае пытанне на Беларусі... штучным і надуманым. Песня нам ох якая знаёмая! Усё яшчэ жывы Курылка — жывы злачынны міф аб быццам бы штучным паходжанні самой беларускай мовы.

І ўсё гэта адбываецца не паўстагоддзя таму назад, і нават не пяць гадоў, а цяпер — пасля прыняцця нашым урадам Закону аб мовах. Так, вядома, закон не для ўсіх пісаны. Але выкарыстоўваць нацыянальнае тэлевяшчанне для знявагі нацыянальнай годнасці народа, ды яшчэ ў час нацыянальнага адраджэння — ці не занадта вялікі іспыт для хрэстаматыйнага беларускага цярпення?

Прыклад з беларускім «Маладзёжным тэлецэнтрам» — не адзіны, а толькі найбольш характэрны. Тэлебачанне як найбольш публічная, універсальная культурная ўстанова Беларусі патрабуе ў корані іншага падыходу. Гаворку трэба весці аб капітальнай канцэпцыі нацыянальнага тэлебачання. Бо, сапраўды, не адкрываць жа нам у межах «Праграмы беларускага тэлебачання» нейкі спецыяльны «беларускі канал»!..

І. СОТНІКАЎ,
Мінск.

Барыс САЧАНКА

# ДУМКІ ЎРОССЫП

Іншы раз з жахам уяўляю, што было б з табою — о, Радзіма мая, Беларусь! — каб не мова наша! Колькі ворагаў паланілі цябе, знішчалі, палілі вёскі і гарады, тапталі палі, высякалі лясы, забівалі, выганялі за свет людзей... Апалячвалі, русіфікавалі, анямечвалі... А ты жывеш! І веру — жыць будзеш! Будзеш жыць, пакуль жыве слова наша, песня наша, мова наша!

* * *

Усё больш і часцей думаю пра тых людзей, што аддалі свае лепшыя гады вывучэнню нашага роднага беларускага краю. Сярод іх — гісторыкі, краязнаўцы, фалькларысты, лінгвісты... Я. Чачот... Ул. Сыракомля... І. Насовіч... Е. Раманаў... М. Нікіфароўскі... А. Кіркор... П. Шпілеўскі... У. Дабравольскі... П. Шэйн... І. Сербаў... П. Бяссонаў... А. Сапуноў... М. Доўнар-Запольскі... М. Любаўскі... П. Уладзіміраў... Я. Карскі... А. Сержпутоўскі... М. Федароўскі... Ч. Пяткевіч... К. Машынскі... Што ведаем мы пра гэтых людзей, што зрабілі і робім дзеля вывучэння і прапаганды іх вялікай і такой каштоўнай спадчыны? Хто, хто дарує нам, што мы гэтакія абыякавыя да свайго мінулага, не цэнім па-належнаму нават таго, што пакінулі нам і краю нашы славутыя папярэднікі?

* * *

«Братцы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове...»

Які ўжо раз перачытваю словы — не словы нават, а запісаны ў словах крык душы і болю, заклік і запавет Мацея Бурачка. І думаю — адкуль у яго такая перакананасць, хто дапамог яму так ясна, па-інтэрнацыяналісцку, усвядоміць сваю нацыянальную годнасць, годнасць мовы нашай, яе значэнне для далейшага развіцця Беларусі? Ці пачулі яго, зразумелі «братцы мілыя»? Мусіць жа, бо ў нялёгкім змаганні заваявалі права «людзьмі звацца» — стварылі не толькі сваю дзяржаву, але і цэлую вялікую літаратуру. Літаратура гэтая сёння — наша слова і гонар. Калі раней, да Мацея Бурачка, на «мужыцкай» мове пісалі толькі лічаныя асобы, дык цяпер на ёй пішуць усе самыя таленавітыя, лепшыя сыны і дочкі Беларусі. Мова наша сапраўды такая ж «людская», «як французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая...». І гэта ведаем цяпер не толькі мы, беларусы, але і тыя ж французы, немцы, усе суседзі нашы і не суседзі...

І дапамог гэта ўсвядоміць не толькі суседзям нашым і не суседзям, але і самім нам Мацей Бурачок — выдатны грамадзянін і паэт, адвакат мовы нашай і народа Францішак Багушэвіч.

Дык давайце ж, «братцы мілыя», не забываць яго слоў — закліку і запавету, помніць іх, а заадно і яго самога, усіх тых, хто першы пракрычаў на ўвесь свет — ёсць такая «зямліца — Беларусь», ёсць такі народ — беларускі, ёсць такая мова — беларуская».

«Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!»

* * *

Калісьці, да вялікага Пушкіна ды і пасля яго, у Расіі было шмат людзей, якім здавалася, што ёсць больш багатыя, перспектыўныя мовы, як свая родная, руская. І спрабавалі пісаць, ствараць мастацкія творы па-французску, па-нямецку, па-англійску. Хто ведае сёння тых пісьменнікаў? У Францыі? У Германіі? У Англіі? У Расіі?

Мінулі вякі, а не-не дый знаходзяцца такія, якія спрабуюць ствараць мастацкія творы не на сваёй роднай мове, а на больш, як ім здаецца, багатай, перспектыўнай. Тых жа, хто ідзе шляхам Пушкіна, Шаўчэнкі, Купалы яны называюць зняважліва правінцыяламі. Але хто сапраўды ў гэтым правінцыял, думаецца, гісторыя ўжо сказала...

* * *

У тым, што побач з рускай і польскай культурай і літаратурай узнікла і беларуская,— няма ніякай выпадковасці, а ёсць гістарычная абумоўленасць, неабходнасць. І гэта было даказана потым, калі рабіліся спробы пазбавіць беларускі народ сваёй культуры, сваёй літаратуры. Патрэбу мець сваю родную мову, культуру і літаратуру, як гэта ні дзіўна, найбольш адчувалі не тыя, хто быў на верхняй ступені сацыяльнага і культурнага развіцця, а тыя, хто быў на самай ніжняй — простыя людзі. Насуперак усім і ўсяму яны размаўлялі на сваёй мове, спявалі свае песні, расказвалі свае казкі, танцавалі свае танцы і тым самым выхоўвалі тых, хто потым і стаў першым нашым гонарам — паэтаў, рэвалюцыянераў, краязнаўцаў, гісторыкаў...

Шлях да нацыянальнага самаўсведамлення не быў усыпаны ружамі. Але скажыце — што, дзе і калі нараджалася інакш?..

* * *

«Мы любім сваю мову і сваю радзіму» — напісаў У. І. Ленін у 1914 годзе ў артыкуле «Аб нацыянальным гонары вялікаросаў». Няўжо хоць калі і Беларусь дачакаецца, што гэтак адказна і з гонарам будуць пісаць і гаварыць пра сваю Радзіму і сваю мову ўсе яе сыны і дочкі?..

1960—1990 гг.

Мікола Маляўка

# РОДНАЯ МОВА— АДНА

Бываюць мовы блізкія,
А родная — адна.
І над маёй калыскаю
Схілялася яна.
З матуляю за грэбляй
У копы сена грэбла,
Спявала — чуў здалёк:
«Цячэ вада ў ярок...»
І на жніве, бывала,
Таксама запявала
Пад музыку сярпа:
«А ў полі вярба...»
Пачуццяў не таіла
І клікала-прасіла:
«Ляці, ляці, мой мілы,
Пазыч у птушкі крылы...»
На чоўне веславала,
Як пра сябе, бывала,
У рэчанькі пытала:
«Чаму ж ты не поўная,
З беражком не роўная?..»
Здаралася, і плакала,
Ды не рабіла зла,
Да гора абыякавай
Ніколі не была.
Аднак душа шчымела,
Марнела з году ў год,
Нібы асірацела,
Нібы прапаў народ.
Жыла адна ў запечку
З паніклай галавой,
Баялася, што свечку
Паставяць ёй, жывой.
Праз суд вялі за краты,
Глуміліся з яе,
Ды не забілі каты —
Чужыя і свае.
І выйшла ганарова
З запечка, як з турмы,
Каб з ёй, дзяржаўнай мовай,
Народам сталі мы.

## НЕ АНЯМЕЦЬ!

Генадзь ТУМАШ

# РОДНАЕ СЛОВА

Народу, Бацькаўшчыне наканаванае,
Сынамі, дочкамі ганараванае,
Гісторыцца з мінуўшчыны сівой
Вялікаснай дзяржаўнасцю сваёй.

У Празе вячыста значанае,
Францішкам Скарынам асвячанае.
Хлуснёю чужацкай аблітае
Як не субожнае, паспалітае.

Дударом, сакалом наспяванае,
Дуніным-Марцінкевічам навекаванае,
Цемрашалаў рацьу каб не зрушчыла,
Каб не спольшчыла Беларушчыны.

Багрымам, як скарб, пранесенае,
Роднае, чыстае, песеннае.
І пад шпіцрутэнамі ў салдатчыне
Не загінула слова матчына.

У Кастуся Каліноўскага збройнае,
Незалежнае, самастойнае.
Пятлёй Мураўёва спалоненае,
На Бацькаўшчыне забароненае.

Францішкам Багушэвічам ахвяраванае,
Ад імперскай Расіі адваяванае.
Святыню, якую народу даў Бог,
Мацей Бурачок у забранай краіне сцярог.

Янкам Лучынам загартаванае,
З няволі, з палону здабыванае,
Каб напаўнялася роднае слова
Колішняй сілай святою нанова.

Пашкевічанкай у краі абвешчанае,
Як вырок беларусаў цару і памешчыкам.
Нескаронае слова Цёткі —
Голы меч у руцэ патрыёткі.

У Янкі Купалы — як сонца ўзыходнае,
Усебеларускае, усенароднае,
Годнасць нашу вялічыць духам лучбы,
Мы — народ беларускі, а не рабы.

У Якуба Коласа — нацыянальнае,
Як хлеб духоўны выратавальнае,
З ім узнебна жывецца душы чалавечай,
Хай калоссе Радзіма выспельвае вечна.

Каб лёсіла слову на любасць і славу,
Каб родную мела краіну, дзяржаву,
Баргдановіч паўстаў, як прарок, над імперыяй
З векавечнаю праўдай і вераю.

Народу, Бацькаўшчыне наканаванае,
Сынамі, дочкамі ганараванае,
Пагоняю імчыцца ў векавым прасцягу
Пад вольным бел-чырвона-белым сцягам.



Патрыёт роднага слова за акіянам, амерыканец беларускага паходжання, вядомы спявак Багдан Андрусішын (Данчык).
Фота Ул. Крука.

Уладзімір ПЕЦЮКЕВІЧ

# ШЛЯХАМ ПАЛЫНОВЫМ

*А хто там ідзе, а хто там ідзе...*
*Янка КУПАЛА*

Крыж пакуты нясем і нясем на плячах,
Аніяк іх не можам расправіць
З той пякельнай пары, як разбойнічаў страх,
Чорным воранам гойсаў па краі.

Па траве палыновай, па белых касцях,
Па сірочым, па ўдовіным плачы
Крыж цяжкі мы нясем, аж цямнее ў вачах,
Скалануўся ўвесь свет, як убачыў:

—Хто такі там ідзе ў немалой грамадзе
Курапацка-Чарнобыльскім шляхам?
— Беларусы. Іх Памяць наперад вядзе
Пад крывіцкім пакутніцкім сцягам.

— А хто Памяць ім тую вярнуў да жыцця,
Разбудзіў непакорлівы нораў?
— Жах манкуртамі быць, жах не ўстаць з небыцця:
Даканае духоўны Чарнобыль.

— На якія агні хочуць выйсці яны,
Каб зажыць у святле несмяротным?
— Уваскрэслай душой адрадзіць карані
І быць вечным, як неба, Народам.

## СЛОЎЦЫ, ЯКІЯ ПАСЛУЖАЦЬ

# А Ў ЯГАДНАЙ ГАВОРАЦЬ ТАК...

Вёска Ягадная знаходзіцца ў 35 км на паўночны захад ад Баранавіч на правым беразе ракі Іса, на самай мяжы са Слонімскім раёнам. Такую назву вёска атрымала ў пачатку 80-х, раней жа яна называлася Блошна.

У вёсцы налічваецца каля 100 двароў, большасць жыхароў (блашэ́нцы, блашэ́няц, блашэ́нка) — людзі сярэдняга і пажылога ўзросту. Сярод іх толькі прыкладна 10 сямей праваслаўнага веравызнання, або, як яны сябе называюць — РУСКІЯ. Усе астатнія — ПАЛЯКІ, гэта значыць католікі, хоць польскую мову ведаюць нямногія.

Для гаворкі вёскі характэрныя некаторыя спецыфічныя рысы: ужыванне форм прыметнікаў мужчынскага роду на -ум у месным склоне адзіночнага ліку (на хімічаскавум, у бе́лум, у гарэ́хавум), сустракаецца вымаўленне прыметнікаў і з -ом, але рэдка (у чужо́м); падаўжэнне зычных на месцы спалучэння «мяккі зычны +j» у інтэрвакальным становішчы (вясе́льлё, паднябе́ньнё, насе́ньнё); наяўнасць канчатка -ом у 1-ай асобе множнага ліку дзеясловаў загаднага ладу (кладзём, знайдзём); пад націскам перад ў (нескладовым) вымаўляецца о (клоў, броў, пазычоў) і інш.

Аве́н часц. Вунь. Авэн каравэ прыйшлі, бяжы, унучак, загані ў хлеў.

Брысь: чырвоны, як брысь. Пра чырванашчокага чалавека. Хвэлюсю, мо, гадоў дзевяносто будзя, а ён чырвоны, як брысь.

Выплыва́льнікі мн. Першыя баравікі. Выплывальнікі на Міколу паяўляюцца.

Гарму́шка ж. Цура. Вазьмі малака, хлеба ўкрышы, сахару дабоў — гармушка гатова.

Ґрабе́ньчыкі мн. Вязель. Грабеньчыкі любяць расьці каля дарогі.

Джы́нджык м. Маленькі нож. Ні чапай джынджык, ён гостры, абрэжашся.

Забіць: забіць жабу. Паказытаць. Ага! Папоўсё! Цяпер я жабу табе заб'ю.

За́йчыкава капу́стка (капу́стачка) ж. Кісліца звычайная. Зайчыкавуй капусткі як з'ясі, так рот аш зводзіць ад аскомы.

Запла́та ж. Зарплата, Цяпер у нас заплата хароша.

Ќазлэ́ мн. 1. Браткі. Ќаравэ ўжэ паняслісія авэн у казлэ. 2. Прыстасаванне рэза́ць дровы. На казлах добро дрова рэзаць, не варочаюцца.

Ќалёса-крывулі мн. Санкі. Бало, як дроў зімою трэ было больш пакласці, то да санькуў шчэ калёсакрывулі прыстуўлялі.

Ќаплюха ж. Сівуха. Ќаплюхі — грыбэ натто горкія.

Колб м. Ёрш. Дзе рэка глыбока і жоўты пясок, е, то там калбоў добро лавіць.

Кру́мяла ж. Гальян. Раньш і стронгі, і шчупаке, і плоткі на вуду лавіліся, а цяпер анныя крумялы пападаюцца: прапала недзя рыба.

Купа́йло н. 1. Рэлігійнае свята Івана Купалы. 2. Купальнік. Купайло на семачкі пахожы, ну як сланэчнік, усё роўно.

Ма́йсцяр ко-ко. Выдатны майстар. Ты ні просто чалавек, а майсцяр ко-ко.

Мална́ ж. Махляр. Брэша, як мална.

Мало́чніца ж. Гаварушка. Малочніцы трэ вымачыць, а посьля саліць.

Маркіра́нт м. Хітрун, махляр. От ужэ маркірант: як што памагчы трэба, так усягда неку хваробу сабе прыдумая.

Міны мн. Рысы характару. Ты, Жэнік, усе міны бацькавы паброў.

Патгры́бніца ж. Свінуха тоўстая.

Прама́ршыць зак. экспр. Растраціць. Грошы прамаршыў, цяпер сядзі на бабах.

Пульсэ́тка ж. Вязаны выраб, які надзяецца на запясце зімой. Як пульсэтку ні адзену, так рука на глатко мерзня.

Прыліпка ж. П'яўка. Ні лезь, дзіцятко, ў воду, а то прыліпка на ногу прыліпня.

Пры́мавіско н. Словапаразіт у размове. Блашэнцуў прымавіско выдае — як гаворань, то ля ўстуўляюць.

Раму́шкі мн. Мочкі. Цэлы дзень зарабляеш ты ў міне, пара рамушкі тваe церці.

Се́кавіца ж. Мінога. Ранняй вясной у рэчцы много е секавіц.

Смага́ль м. Рыжок. Ест рышке аш гарэхавыя, а смагале больш сьветлые такія.

Смактуха́ ж. Жывакост лекавы. У смактухі цвяточкі натто салодкія.

Стаўбу́ньчык м. Страчок, Стаўбуньчыкі высокія вырастаюць, іх здалёк убачыш.

Ста́цьва мн. Ставы. Зара мало хто стацьва ставіць, лянуюцца, у магазінах усё купляюць гатово.

Ты́ргус м. Бабка. Нешта тыргусу захацеласё.

Шкуле́па ж. Бычок. Хто ш есьць шкулепуў, у йіх мяса німа, только косьці.

Галіна Маркушэўская

## РУПЛІЎЦЫ НА НІВЕ РОДНАГА СЛОВА



Настаўнік Гудзевіцкай школы Мастоўскага раёна Алесь Мікалаевіч Белакоз. Фота Ул. Крука.

# СІЛА РОДНАГА СЛОВА

Мова, роднае слова — гэта аснова ўсяго разумовага развіцця дзіцяці, крыніца крыніц усіх ведаў. Уводзячы дзіця ў родную мову, мы ўводзім яго ў свет народнай думкі, народнага пачуцця, народнага жыцця, бо ў мове адухаўляюцца ўвесь народ і радзіма. Паэтэса Цётка пісала: «Бедны той, хто... не мае скарбаў вечных — скарбаў душы. Такі скарб, каторы ніхто і ніколі адабраць ад нас не здалее, — гэта любоў да Бацькаўшчыны, да свайго народу, да роднай мовы...» Вось гэтую духоўную беднасць я адчула, калі пераступіла парог шостага класа.

Урок беларускай мовы. Стараюся, каб ён быў цікавы, запамятаўся на усё жыццё. Мае словы перапыняюць просьбы вучняў: «Говорите на русском языке, мы ничего не понимаем, потом переводите на белорусский». Я аж знямела. Некалькі імгненняў маўчала, потым сказала: «Добра, дзеці. Адкладзіце ручкі, сшыткі, сядзіце і адпачывайце. А я вам перакажу сёе-тое з твора Віктора Гюго «Чалавек, што смяецца». Буду расказваць на беларускай мове». Стала расказваць, выбірала самае цікавае.

Калі да званка заставалася адна хвіліна, я перапыніла свой расказ на самым цікавым эпізодзе. Пачуліся просьбы: «Продолжайте, пожалуйста!». «А вы зразумелі?». У адказ: «Да!». «Ну, вось і добра, — кажу я. — Запішыце заданне на дом, выканайце. Калі усе зробяць усё і будуць ведаць правілы, на кожным уроку я буду расказваць вам пра самыя цікавыя творы беларускіх, рускіх і замежных пісьменнікаў. Згодны?» У адказ пачулася дружнае: «Згодны!». Вось гэтак пачалася складаная работа са словам. Спачатку слухалі, вучыліся разумець, потым вучылі вершы на памяць, запрашалі паэтаў, наладжвалі пасяджэнні пад назваю «Роздум».

У канцы навучальнага года даю вучням лісткі паперы і прашу занатаваць аўтараў і іхнія творы, якія яны пачулі ад мяне і якія прачыталі самі. Лічба атрымліваецца значная: каля 25 аўтараў (у адных больш, у другіх менш). Акрамя таго, дзеці вучыліся выказваць свае думкі, адстойваць іх. Я зразумела, што дзеці набылі слоўнікавае багацце, сталі думаць на роднай мове, што ўжо час навучаць іх цікаваму абмеркаванню твораў — дыспуту.

Шырока выкарыстоўваю я на ўроках і іншыя віды работы. Дзеля прапагады паэзіі і развіцця ў вучняў паэтычнай культуры прыношу на ўрок творы і кажу: «У мяне адбылося цікавае спатканне з паэтамі. Вы можаце гэтаксама спаткацца з імі, калі пачытаеце вось гэткія кніжкі». Дзеці знаёмяцца з кнігамі, выпісваюць радкі, якія ім асабліва спадабаліся. Вучу дзяцей пісаць вершы. Кажу ім: «Мы вывучылі шмат вершаў на памяць, шмат чыталі. А ці хацелася б каму-небудзь з вас выказаць свае думкі ў паэтычнай форме? Сёння кожны з вас, хто адчувае сілу роднага слова, папрацуе з ім. Вы сёння і паэты, і празаікі. З вашых твораў мы складзём невялікі зборнічак...»

Вера ў творчыя магчымасці вучняў дала плён. Сёння я магу сказаць, што навучыла дзяцей роднаму слову, яны адчулі ягоную моц і хараство. Работа Паўла Якубовіча гэтак і названа «Я ведаю сілу роднага слова». «Я ведаю сілу роднага слова, — піша вучань. — Мама — гэта слова, якое ўпершыню вымаўляе чалавек і праносіць праз усё жыццё. Гэтае слова ўвабрала ў сябе ўсе самыя добрыя і шчырыя пачуцці. Акрамя слоў «Мама» і «Радзіма» ў нашай мове ёсць шмат добрых слоў, але, на жаль, людзі не заўжды разумеюць той сэнс, які закладзены ў гэтыя словы, не заўсёды ў нас ёсць тыя пачуцці, якія б адпавядалі нармальным чалавечым адносінам да навакольнага свету.

Ёсць на Міншчыне вёска, у якой нарадзілся мае бацькі. Назва ў вёскі адмысловая — Лютыя. Чаму людзі назвалі яе так? Можа, за тое, што яе жыхары былі жорсткія да ворагаў? Нялёгка на гэтае пытанне даць адказ, але вядома адно: на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў тут знішчалася ўсё жывое. А некалі тут былі...

Так, тут былі бярозавыя і асінавыя гаі, волаты-дубы, сялянскія пакосы і ў цёмных гушчарах лясоў запаветныя сцежкі грыбнікоў. Былі... Чаму былі? Таму, што цяпер іх няма, цяпер на тым месцы, як вокам сягнуць — ляжыць голая пустэча і толькі дзе-нідзе заўважыш адзінокае дрэўца, і нейк міжволі напрошваецца адказ пра назву вёскі.

Лютыя... Можа, вяскоўцы, ужо ў наш час, апраўдалі яе назву не жорсткасцю да заваёўнікаў, а тым, што сталі лютыя да сябе, да роднае зямлі? І гэткіх прыкладаў можна прывесці шмат. Ці ведаў той, хто даў назву Чарнобылю, што тут адбудзецца катастрофа? Арал, Чарнобыль, Лютыя... На нашай планеце тысячы гэткіх мясцін, дзе прырода знікла з-за чалавечай абыякавасці і безгаспадарчасці. Але ўсё ж, мабыць, не забыліся людзі і пра добрыя словы, і пра добрыя справы. Застаўся ўсё ж у Лютых запаветны бор і дзівосныя паплавы. І таму хочацца сказаць: «Людзі, зберагайце нашу маці-прыроду!». І калі гэтак станецца, тады самыя звычайныя словы набудуць значны, добры сэнс».

Я расказала пра творчасць вучняў для таго, каб паказаць, што ад настаўніка залежыць вельмі многае ў адраджэнні роднай мовы. Дапамагаюць яму ў гэтай складанай справе розныя формы работы, асабліва выкладанне мовы на літаратурнай аснове. Гэта дае магчымасць не толькі навучаць дзяцей пісьменнасці, але і выхоўваць патрыётаў зямлі сваёй, людзей з высокімі чалавечымі якасцямі.

Шмат дапамагае ў вывучэнні роднай мовы пазакласная работа, якую я вяду ў гасцёўні пад назваю «Роздум». Цікава прайшлі сустрэчы с пісьменнікамі Міколам Чарняўскім, Алесем Камароўскім, Уладзімірам Карызнам і многімі іншымі. Кожная з гэтых сустрэч была цікавая, глыбей знаёміла з беларускай літаратурай, з хараством роднае мовы, заахвочвала да старраннага яе вывучэння, да ўласнай творчасці.

Ужыванне розных формаў працы дало магчымасць вучням напісаць свае творы, якія склалі школьны зборнік, прысвечаны 500-годдзю з дня нараджэння Францішка Скарыны. Асабліва запамінальнай падзеяй у жыцці школы было выступленне па тэлебачанні пад назваю «Літаратурныя спатканні». А гэта дадало кожнаму вучню яшчэ больш веры ў тое, што ён валодае родным словам і ведае ягоную сілу.

Н. АЛЬШЭЎСКАЯ,
настаўніца беларускай мовы
і літаратуры СШ № 180
г. Мінска,
кандыдат педагагічных навук.

## ГОЛАС ДЗЯЦЕЙ — ГОЛАС БОЖЫ

*Вершы вучняў школьнага літаратурнага гуртка «Праменьчык», г. Маладэчна*

Алеся ЦІМОХІНА

### БЕЛАРУСЬ

Беларусь мая, родная хата,
Дзе радзіліся мы і жывём,
Дзе знайшлі сабе сябра і брата
І куды мы гасцей пазавём.
Але дзе наша родная мова?
Не чуваць яе ў хаце нідзе.
Можа ў лесе яна, можа ў полі,
Можа дзесь у вялікай бядзе?
Ой, забылі яе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон
Тыя ўсе, што з трыбунаў кляліся —
За народ, яго гонар і плён.
Беларусь, наша родная хата,
Дзе радзіліся мы і жывём,
Дзе знайшлі сабе сябра і брата...
А куды мы гасцей пазавём?!

*

Ларыса ВАШЫНКА

### БОЛЬ МОЙ

Мова мая прыгожая, белая.
Здраднікі нішчаць яе, анямелую,
Беспакарана і жудасна смела,
Нішчаць душу, у якую я верую.
Услухайся ў мову гэту радзімую —
Пачуеш песеньку ты салаўіную,
Пачуеш, як плешчацца ў рэчцы вадзіца,
Убачыш, як з гаю ідзе маладзіца.
Чаму ж, людзі, губіце мову народную?
Любіце яе, без яе прападзеце,
Не будзе чаго вам пакінуць і дзецям.

*

Вольга БРЫСЬ

### ЯК МАТУЛЮ СВАЮ...

Беларусь! Мая родная маці!
Як жа мне ды цябе не любіць!
Толькі выйду я з роднае хаты,
А пшаніца, як мора, шуміць.

Беларусь — і лясы, і азёры,
І палі, і нябёсаў блакіт.
Беларусь — ты і шчасце і гора
Змагароў векапомных тваіх.

Твае вочы — азёры і рэкі,
Твае вусны — гаворлівы люд.
Беларусь — гэта крыўды і здзекі
З мовы той, на якой гавару.

Беларусь не пакіну ніколі,
У чужых шчасце мне не шукаць,
Бо няма нам найлепшае долі,
Як матулю сваю шанаваць.

# ХТО ТАКІЯ БЕЛАРУСКАМОЎНЫЯ КАТОЛІКІ?

Беларускамоўныя каталікі гэта людзі каталіцкага веравызнання (ці іх патомкі), асноўная ці адзіная мова якіх — беларуская. Іх этнічная (этнанацыянальная) самасвядомасць характарызуецца пэўнай спецыфікай: частка іх выразна ўсведамляе сябе беларусамі, другая частка — палякамі, параўнальна невялікай іх колькасці характэрна пераходная літоўска-беларуская ці літоўска-польская самасвядомасць, нарэшце, вялікай іх частцы характэрна пераходная самасвядомасць беларуска-польская і польска-беларуская.

Фармаванне этна-культурнай групы беларускамоўных каталікаў складанае. Хрысціянізацыя паўночна-заходняй Беларусі ішла не толькі з боку Кіева ці Візантыі, але і з захаду. Хрысціянская царква раздзялілася на праваслаўную і каталіцкую ў XI ст. Пасля гэтага яшчэ доўгі час народ не ўсведамляў вялікай розніцы паміж праваслаўем і каталіцтвам і пераход з праваслаўных у каталікі ці з каталікаў у праваслаўныя не лічыўся нечым незвычайным. Актывізацыя каталікаў у раннія часы хрысціянства на Беларусі заключалася ў першую чаргу ў будаўніцтве храмаў у тых населеных пунктах, дзе не было храмаў праваслаўных. У такіх паселішчах з цягам часу замацоўвалася каталіцкая рэлігія. На беларускую мову перайшла частка каталікаў-літоўцаў Віленшчыны і некаторых іншых вобласцяў. Іх патомкі, такім чынам, станавіліся беларускамоўнымі каталікамі. Аб літоўскім паходжанні з часам забывалася. У розныя часы на Беларусь перасяляліся палякі з Польшчы. Значная частка іх патомкаў, трапіўшы ў беларускае асяроддзе, стала беларускамоўнай. У канцы XVIII ст. каля 3/4 усяго насельніцтва Беларусі складалі уніяты. Калі уніяцкая царква была аб'яднана з праваслаўнай, частка уніятаў перайшла не ў праваслаўе, а ў каталіцтва. Спрыяла гэтаму пераходу тое, што каталіцкая царква была прывілеяваная.

Атаясамліванне прыналежнасці да каталіцкай веры з прыналежнасцю да польскай нацыянальнасці раней за ўсё атрымала пашырэнне на Украіне, асабліва ў Галічыне, паколькі Галічына з XIV, а іншыя ўкраінскія вобласці з XVI ст. непасрэдна ўваходзілі ў склад Польскай Кароны. Беларусь жа да канца XVIII ст. уваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага, таму тут ідэя атаясамлівання паняцца «каталік» і «паляк» доўга не набывала вялікага пашырэння. Інтэнсіўны і найчасцей прымусовы пераход беларусаў з праваслаўя ў каталіцызм адбываўся ў 20—30-я гады XX ст., калі Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад Польшчы.

У часы царскай Расіі ў Беларусі і на Украіне прапагандавалася ідэя, што праваслаўная рэлігія — гэта руская вера, а праваслаўнае насельніцтва гэтых вобласцяў — рускія, у той жа час рэлігія каталіцкая — гэта вера польская, а мясцовыя каталікі — палякі. Імкненне русіфікаваць праваслаўных беларусаў і ўкраінцаў, такім чынам, спрыяла пашырэнню польскай самасвядомасці сярод беларуска- і ўкраінскамоўных каталікаў.

У пасляваенны час існавалі фактары, якія спрыялі замацаванню польскай самасвядомасці сярод пэўнай часткі беларускамоўных каталікаў. Да такіх фактараў, у прыватнасці, адносіцца «славутая» ідэя зліцця нацый. Як яна ўздзейнічала на этнічную самасвядомасць, можна меркаваць па наступным выказванні беларуса-каталіка, запісаным у час дыялекталагічнай экспедыцыі: «Я каталік, гавару папросту; па-просту — гэта тое, што па-беларуску. А пішуся я палякам. Чаму палякам. А кім мне пісацца? Беларусам? Я пісаўся б беларусам, але беларуская нацыя тэраз дажывае паследніе дні. Тэраз усе нацыі зліваюцца. Не ўсе, праўда. Палякі не сальюцца. А беларускага языка нідзе, у сельсавеце, і там няма. Маладёж не хоча гаварыць па-беларуску. Нідзе шыльдачкі па-беларуску. І вот. Беларуская нацыя зліваецца з рускай. Так што нам трэба з рускімі зліваццa. А мы, беларусы-каталікі, бліжэй да палякаў, чым да рускіх. Так вот, я — паляк».

Захавалася тэндэнцыя атаясамлівання паняццяў «каталік» і «паляк» у рэлігійнай сферы, паколькі ў большасці касцёлаў на тэрыторыі Беларусі пропаведзі чытаюцца толькі па-польску. Заўважым, што ў этнічна змешаных рэгіёнах Літвы і Латвіі ў касцёлах пропаведзі чытаюцца палітоўску і па-польску або палатышску і па-польску. У 20—30-я гады на Інгаліншчыне ў некаторых касцёлах пропаведзі чыталіся па-літоўску, па-польску і па-беларуску.

Атаясамліванне паняццяў «каталік» і «паляк» пашырана сярод беларускамоўных каталікаў, якім характэрна пераходная самасвядомасць. Як прыклад, прывядём словы жыхара вёскі Бенякoні Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці (1976 г.): «Ну якія мы палякі, мяне ахрысцілі палякам, то я й паляк, а што мяняць».

Частка беларускамоўных каталікаў на працягу многіх пакаленняў была цесна звязана з польскай культурай, успрыняла яе. Ім характэрна больш або менш выразная польская самасвядомасць.

Неабходна аднак адзначыць, што нярэдка этнонім «палякі» не з'яўляецца саманазвай беларускамоўных каталікаў. Так іх часта называюць у першую чаргу суседзі, праваслаўныя беларусы.

Перапісы насельніцтва даюць супярэчлівыя дадзеныя наконт згаданай этнакультурнай групы. Так, польскі перапіс 1931 г. на тэрыторыі Польшчы адзначыў 77,8 тыс. беларусаў каталіцкага веравызнання. Гэта пераважна Заходняя Беларусь і сумежныя вобласці. У 1987 г. на гэтай жа тэрыторыі зарэгістравана каля 800 тыс. беларусаў-каталікаў. Розныя лічбы да 1897 і 1931 гадоў з'яўляюцца вынікам прымянення розных крытэрыяў пры праведзенні перапісу, а не моўна-этнічных змен. Таму карыстацца дадзенымі перапісаў можна толькі ўлічваючы іх спецыфіку. Для нас уяўляюць асаблівую цікавасць перапісы 1857 і 1897 гадоў. Перапіс 1897 г. дае малюнак размяшчэння беларускамоўнага каталіцкага насельніцтва (беларусаў-каталікаў) па губернях і паветах. Паводле перапісу 1857 г. (матэрыялы апублікаваны М. Лябёдкінам) можна ў агульных рысах устанавіць характар нацыянальнай арыентацыі беларусаў каталіцкага веравызнання. Іншыя перапісы падобных звестак не даюць.

Перапіс 1897 г. улічваў моўную прыналежнасць і веравызнанне жыхароў Расійскай імперыі. Паводле гэтага перапісу беларусаў-каталікаў налічвалася каля 1050 тыс. чалавек. Па губернях і паветах яны размяркоўваліся наступным чынам.

Віленская губерня — 522,1 тыс., у тым ліку па паветах: Ашмянскі 118,3 тыс., Лідскі 100,9 тыс., Віленскі 87 тыс., Свянцянскі 65,8 тыс., Дзісненскі 60,4 тыс., Вілейскі 60,3 тыс., Троцкі 29,4 тыс. Сярод асоб, запісаных у 1897 г. у Віленскай губерні беларусамі-каталікамі, частка гаварыла на мовах беларускай і літоўскай.

Гродзенская губерня — 213,6 тыс., у тым ліку па паветах: Сакольскі 75 тыс., Гродзенскі 41,3 тыс., Ваўкавыскі 40,1 тыс., Беластоцкі 26,6 тыс., Слонімскі 19,4 тыс., Пружанскі 8,7 тыс., астатнія паветы (Бельскі, Брэсцкі, Кобрынскі) 2,5 тыс.

Мінская губерня — 148,2 тыс., у тым ліку па паветах: Мінскі 46,4 тыс., Навагрудскі 22,4 тыс., Барысаўскі 21,6 тыс., Слуцкі 20,2 тыс. Ігуменскі 17,6 тыс., астатнія паветы (Бабруйскі, Мазырскі, Рэчыцкі, Пінскі) 20,1 тыс.

Віцебская губерня — 83 тыс., у тым ліку па паветах: Дрысенскі 23,9 тыс., Дзвінскі 20,1 тыс., Люцынскі 12 тыс., Полацкі 10,5 тыс., Лепельскі 7,1 тыс., астатнія паветы (Рэжыцкі, Віцебскі, Себежскі, Веліжскі, Невельскі, Гарадоц-

кі) 9,1 тыс.

Ковенская губерня — 32,4 тыс., у тым ліку Нова-Аляксандраўскі павет 32,1 тыс.

Магілёўская губерня — 27,3 тыс., у тым ліку па паветах: Рагачоўскі 5,3 тыс., Аршанскі 4,8 тыс., Магілёўскі 4,7 тыс., Сенненскі 4,4 тыс., Горацкі 3,2 тыс., астатнія паветы (Чавускі, Быхаўскі, Чэрыкаўскі, Гомельскі, Мсціслаўскі, Клімавіцкі) 4,9 тыс.

Сувалкаўская губерня — 14,7 тыс, у тым ліку ў Аўгустоўскім павеце 14,5 тыс.

Курляндская губерня — 8,6 тыс., у тым ліку ў Ілукстаўскім павеце 8,5 тыс.

Перапіс 1857 г. (перапісам яго можна назваць умоўна) праводзілі свяшчэннікі ў сваіх парафіях. Таму ў ім больш аб'ектыўна ў параўнанні з іншымі перапісамі адлюстравана этнічная арыентацыя беларусаў-католікаў. Перапіс мае недахопы. У прыватнасці, запісалі літоўцамі не толькі літоўцаў, але і значную частку беларусаў, да палякаў аднеслі не толькі польскамоўнае насельніцтва, але і частку беларусаў-католікаў. Таму пры падліках мы улічвалі этнаграфічныя апісанні і дадзеныя іншых перапісаў. Такім чынам, паводле перапісу 1857 г. з улікам дадатковых дадзеных у губернях Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай налічвалася прыблізна 600 тыс. беларусаў-католікаў. З іх каля 200 тыс., г. зн. адна трэць, запісана палякамі, астатнія — беларусамі, літоўцамі, крывічамі. З гэтага мы робім вывад, што ў сярэдзіне XIX ст. прыкладна дзве трэці беларускамоўнага каталіцкага насельніцтва прытрымлівалася беларускай этнічнай арыентацыі (самасвядомасці), а адна трэць — арыентацыі польскай.

Такім чынам, беларускамоўныя католікі ўяўляюць этна-культурную групу, якая склалася гістарычна. Група гэта характарызуецца шэрагам спецыфічных асаблівасцяў. Як і ўсякая іншая падобная адзінка, у культурным будаўніцтве яна патрабуе да сябе пэўнай увагі, уліку яе асаблівасцяў. Задача ТБМ — садзейнічаць усведамленню беларускамоўнымі католікамі сваёй прыналежнасці да беларускай нацыі, свайго месца і ролі ў захаванні і развіцці беларускай мовы.

Хведар КЛІМЧУК

# Ліст з Украіны

*Летась я атрымаў ліст з Украіны. Пісала мне Магільніцкая Галіна Анатолеўна, настаўніца. Яна прасіла ў мяне матэрыялаў пра нашу князёўну Рагнеду, пра Полацкае княства. Яе зацікавіў гэты час, і яна піша паэму...*

*Я паслаў ёй некалькі нумароў «Маладосці» з гістарычным нарысам М. Ермаловіча і нумар з п'есай І. Чыгрынава пра Рагнеду.*

*Праз нейкі час я атрымаў новы ліст, які здаўся мне цікавым — не толькі для мяне, і я падумаў, што сёе-тое з гэтага ліста варта надрукаваць, на што і атрымаў згоду аўтара.*

*Ул. ДАМАШЭВІЧ*

Матэрыялы, надасланыя Вамі, дужа цікавыя, асабліва нарыс М. Ермаловіча, які (на маю чыста дылетанцкую думку) «капае» досыць глыбока і ў цалкам вызначаным напрамку.

Чытаючы яго, прыгадала я сваё першае асабістае знаёмства з беларусамі. Было гэта ў Ленінградзе, куды мяне разам з некалькімі студэнтамі паслалі на архіўную ці то музейную практыку. Аднойчы блукалі мы па той Паўночнай Пальміры і прыблукалі да музею Народаў СССР. Хадзілі па залах і абураліся, што Украіна там паказана бедна, што тая украінская зала створана толькі для таго, каб наведнікі пераканаліся, якое шчасце для таго няўдзячнага народу, што ён у рэшце рэшт пачаў развівацца пад «дабратворным уплывам».

Зайшлі ў беларускую залу. Я і кажу: «Божа мой! Дык тут яшчэ большая беднота! Бедная Беларусь! Нам яшчэ пашэнціла...»

І ў той жа момант як накінуліся на мяне якіясь хлопцы, што былі ў зале, як пачалі мяне ўшчуваць! «Беларусь бедная? Беларусь убогая? А што вы ведаеце пра Беларусь, апрача Канстанціна Заслонава і Хатыні? Вы ж мяшчане, цемра!...» і г. д.

Было мне там і ў боршч і ў кашу, бо хлопцы (гэта былі беларускія студэнты-мастакі) не давалі мне слоўца прамовіць для якіх-небудзь апраўданняў. Урэшце да мяне вярнулася мова, і я, набраўшы поўныя грудзі паветра, выгукнула на ўсю залу, што, акрамя Хатыні і Заслонава, я яшчэ ведаю Купалу, Коласа, Барадуліна, Броўку, Танка, Куляшова, Еўдакію Лось, Скарыну, Рагвалода, Рагнеду, Усяслава, які «воўкам рыскаў», і... Максіма Багдановіча! Не ведаю, ці зрабіла на іх уражанне мая «глыбокая эрудыцыя», але напамін пра Багдановіча іх літаральна «зваліў з ног», і яны паверылі, што дзяўчына, якая ведае Багдановіча, не можа кепска ставіцца да Беларусі...

Дык вось, чытала я Ермаловіча, і ўвесь час у вушах маіх стаяла тое дакорлівае ленінградскае: «А што Вы ведаеце пра Беларусь, апроч Заслонава ды Хатыні?»

Ды хіба толькі пра Беларусь?

Так што дзякую Вам, хлопцы...

Вы пытаецеся, ці няма ў мяне беларускае крыві. Не. Я ўкраінка з дамешкам крыві польскай. Прынамней, бабуля мая лічыла сябе чыстакроўнаю полькаю — і калі ўваходзіла ў «пастю», то лаялася выключна па-польску.

Дзедусь быў украінскім інтэлігентам асветніцкага гарту. Ведаў ці не ўсе славянскія мовы, а апроч іх — літоўскую, румынскую, французскую. Ад яго я колісь пачула пра «птушку», што абудзіла «цішыню», ды пра жураўоў, што «роўненькім шнурочкам мкнуцца над лясочкам», і насілася з тымі «птушкамі», даводзячы ўсім, што беларуская мова самая прыгожая, і я, як вырасту, то паеду ў Беларусь і буду размаўляць выключна па-беларуску.

«Птушкі» засталіся для мяне назаўжды ўвасабленнем чагось лагоднага і па-дзіцячы чыстага. Мабыць таму, што пасля маленства я ніколі больш не чула беларускае мовы — і не бачыла.

А неяк, ужо як я была студэнткаю, у нейкім з адэскіх магазінаў натрапіла на кучку людзей, якія размаўлялі неяк дзіўнавата... Не магу перадаць тое адчуванне. Хіба вось як стаіш па грудзі ў рацэ, а вадзічка—такая мяккая, летняя—плыве паўз цябе і абдымае цябе лёгенька — лёгка... І было ў той мове штосьці надта даўняе, і штосьці надта маё, асабістае. Я спярша не разабралася, што гэта за мова, а тады ледзь не прыкметна: «Беларуская!!!» — і доўга хадзіла позіркам за тымі людзьмі, слухаючы, як яны гавораць. Мабыць, яны падумалі, што я агент мясцовага «абверу»...

Адкуль прамым ходам падалася я да кнігарні «Дружба», дзе знайшла вершы Еўд. Лось і П. Броўкі па-беларуску і ўзялася чытаць. Чыталася неяк так, нібы я даўным-даўно ведала гэтую мову, а цяпер толькі ўспамінаю некаторыя словы.

З таго часу, бываючы ў «цэнтрах цывілізацыі», я заўсёды імкнуся знайсці хоць нешта, напісанае па-беларуску. Шкаляры мае (выкладаю я рускую мову ў сярэдняй школе) з захапленнем дэкламуюць: «... калыску маладзік да поўначы на вострых рожках калыхаў». Або: «Агнявыя валаконцы ткуцца ў шоўк чырвоны» і носяцца з тымі «вострымі рожкамі» і з тым нескладовым, кароткім «ў» так, як я колісь са сваімі «птушкамі».

Г. МАГІЛЬНІЦКАЯ.

# ДЗІЎНАЕ СЛОВА «ДЗІВА»

*«...мова насычана перажываннямі мінулых пакаленняў і захоўвае іх жывое дыханне »*

*Вільгельм фон Гумбальт*

Не кожнаму слову наканавана доўгае жыццё. Гаймы слоў назаўсёды адыходзяць у нябыт разам з аджываннем абазначаных імі рэалій. Гэта датычыць перадусім слоў, што пазначаюць прадметы ці з'явы матэрыяльнай культуры. Але ёсць іншыя словы, якія трывала замацоўваюцца ў мове і пераходзяць у спадчыну ўсё новым і новым пакаленням. Гэта словы, што пазначаюць найбольш значныя для чалавека праявы жыцця, асаблівасці яго ўласнага самаадчування ў свеце, гэта словы, што надаюць быццю яго адмысловае чалавечае вымярэнне. Сістэмнасць іх, гэта значыць, укаранёнасць у гісторыка-культурныя кантэксты і нацыянальны «вобраз свету», абцяжарвае часам асэнсаванне іх паходжання і функцыянавання ў мове. Таму, каб зрабіць гэткія словы сапраўды «сваімі», прыходзіцца часта не толькі ўзнаўляць іх лінгвістычную гісторыю, але й рэканструяваць тыя гісторыка-культурныя сітуацыі, у якіх словы ўзнікалі, існавалі і працягваюць існаваць. Метафарычна гэткую дзейнасць можна было б назваць «духоўным уваскрашэннем продкаў», вяртаннем дара Слова тым, хто нам падарыў Жыццё. Даючы Слова продкам, мы вяртаем сабе іх Досвед свету.

Разгледзім, напрыклад, сямейства слоў, што ў беларускай мове задаецца коранем *дзіў-*. Яно ў нашай мове даволі багатае: дзіва, дзівавацца, дзівак, дзівачка, дзівакаваты, дзівацкі, дзівацтва, дзівачлівы, дзівачыць, дзівіцца, дзівіць, дзівоснасць, дзівосны, дзівота, здзіўленне, здзіўляць і іншыя. Паводле «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы», спектр іх значэнняў мае адценні ад лёгка іранічнага да яўна ўзнёслага, асноўныя з іх: «нешта незвычайнае», «тое, што выклікае здзіўленне», «цудоўнае», «фантастычнае», «незвычайнае па характве, прыгажосці», «выдатнае», «вельмі добрае» і г. д.

Праславянская старажытнасць гэтых слоў гарантуецца іншаславянскімі паралелямі, напрыклад: рус. *диво*, укр. *диво*, польск. dziwo, серб.-харв. *диво*, ст.-слав. ДИВО. Але ёсць усе падставы аднесці ўзнікненне, прынамсі, ядра гэтага комплексу да часоў яшчэ больш ранніх адпаведных гіпатэтычнай індаеўрапейскай еднасці. За гэта можа сведчыць, у прыватнасці, санскрыцкае слова divyá з асноўнымі значэннямі «нябесны», «цудоўны», «дзіўны», «адмысловы» і інш. Гняздо ж, у якое ўваходзіць гэтае слова (divyá «боскасць»; div «неба», «дзень», «выпраменьванне», «ззянне»; devá «нябесны», «боскі», «бог»; daiva «боскі», «боства», «боскасць», «святасць» і інш.), непасрэдна адсылае нас да індаеўрапейскага слова для абазначэння «яснага неба» і «боства яснага неба» — *deiuos, добра засведчанага ў гістарычных мовах. Існавала яно і ў праславянскай мове, прынамсі, яно без цяжкасцяў у ёй рэканструюецца на падставе наступных фактаў: рус. *дивий мёд – божий мёд*, серб.-харв. *дивљи* пас- *лтш.* dieva suns, што значыць «воўк» (літаральна: «божы», «дзікі», «вольны», «непрыручаны» сабака).

Тым не менш, не выключана, што і гэтыя значэнні з'яўляюцца ў пэўным сэнсе другаснымі. Яны развіваліся на падставе першасных значэнняў, звязаных са спецыфічна архаічным структураваннем усяго бачнага космасу ў адпаведнасці з простай апазіцыяй «свой» — «не-свой». Увесь свет, такім чынам, уяўляўся падзеленым на «свой», «блізкі», «людскі», «бяспечны» (а гэта перадусім тэрыторыя, занятая родам або племем) і нейкі «іншы», патэнцыйна «небяспечны», населены рознымі міфічнымі істотамі і сам часта падзелены на «ніжні» ды «верхні». Усё, што ішло з гэтага «другога» свету, патрабавала пільнай увагі і ацэнкі, як мінімум, па трохзначнай шкале: «шкоднае», «карыснае» і «нейтральнае» (у сэнсе альбо «ні тое, ні другое», альбо патэнцыйна «і тое, і другое»). У залежнасці ад папярэдняй ацэнкі рэакцыя можа быць абарончаю (першы выпадак), насцярожанаю (трэці выпадак), альбо спецыфічнаю рэакцыяй (другі выпадак), якая звычайна спахадуецца значным расслабленнем усяго цела. Гэта, так бы мовіць, рэакцыя «здзіўлення», якая азначае поўны давер незнаёмаму новаму, адносную свабоду што да прадмету свайго зацікаўлення. Згадайма прыкметы такой рэакцыі, зафіксаваныя самою моваю: «шырока расплюшчыць вочы», «разявіць рот» і падобнае. Сапраўды, здзіўлены чалавек выглядае даволі бездапаможным, а мы ў такой сітуацыі гаворым: дзівак-чалавек.

У выніку розных прычын за словамі, што пазначаюць элементы «іншага» свету, могуць замацоўвацца розныя адценні значэнняў ад станоўчых да адмоўных. Параўнайма, напрыклад: цуд, цудоўны, кудасіць «рабіць цуды», але чужы, а таксама літ. kúodis «сноп» пры беларускіх (славянскіх) назвах апошняга нязжатага снапа — «барады» — Вялес, Жыцень, Жытнёвы дзед; новы, але і *науя* «насельнік свету мёртвых»; дзіўны, і.-е. *deiuos «бог», але і балг., укр, *див* «злы дух», польск. dziw тое самае і г. д. (апошнія значэнні маглі развіцца пад уплывам іранскіх моў і замацавацца пасля хрысціянізацыі; для параўнання; ст.-іран. daeɑa «дэман», «злы дух»).

Цікава адзначыць, што менавіта спатканні са «станоўчым невядомым», а перадусім гэта, бясспрэчна, надыходы новага дня, які разганяе цемру начы і развейвае начныя страхі, спазіранне яснага неба, якое не пагражае ні навальніцаю, ні залевою, набывалі сакральнае значэнне, а моманты гэткіх спатканняў станавіліся сакральна адзначанымі — святамі. А сутнасць свята ў тым і заключаецца, што яму аддаюцца цалкам, з поўным даверам, будучы абсалютна свабоднымі ад любых матэрыяльных зацікаўленняў і перасцярог. Удзельнікі свята — гэта ў поўным сэнсе слова *дзівачы*, якія непасрэдна і без боязі спазіраюць боства, а душы іх накіраваныя на ўзвышанае. У старажытнай Эладзе існаваў спецыяльны тэрмін — theōrós (літаральна: «той, хто спазірае боскае альбо бога») — для абазначэння ўдзельніка грамадскіх святочных відовішчаў (théa), якога накіроўвалі на іх полісы і адзінай сакральнай функцыяй якога было адно спазіранне. Самыя святочныя відовішчы адбываліся ў спецыяльных месцах, якія называліся théatron («відовішча», «месца для відовішчаў»). (Дарэчы, у славацкай мове знаходзім дакладны адпаведнік: divadlo «тэатр»). Пазней «тэорыяй» грэкі пачалі называць спазіранне Космасу і, наогул, даследаванне, якое цалкам захапляецца сваім прадметам і дазваляе самому прадмету адкрываць свае таямніцы. З усведамлення гэтага пачынаецца самаасэнсаванне еўрапейскай філасофіі. Згадайма Платона: «...якраз філасофу ўласціва перажываць... здзіўленне. Яно і ёсць пачаткам філасофіі...». А яшчэ пазней амаль тое самае пацвердзіў Гегель: «Тэарэтычнае стаўленне да прадмету пачынаецца з вызвалення ад усялякае карыслівасці». І ці ж не дзіва, што сёння гэтая філасофская самарэфлексія ў сваім спрадвечным здзіўленні спынілася перад феноменам мовы — «домам быцця» (М. Хайдэгер) у яго адмысловым чалавечым вымярэнні!

Мы паспрабавалі ўзнавіць некаторыя з гістарычных сувязяў нашых стародаўніх слоў і ўбачылі, што гісторыя нават аднаго слова можа быць не менш глыбокай ды змястоўнай, чым гісторыя цэлых грамадстваў. Слова заўсёды гатова раскрыць свае таямніцы, трэба толькі не развучвацца здзіўляцца і распытваць яго, памятаючы, што «тэарэтычнае стаўленне» да Слова павінна перадусім быць уважлівым, а значыць, неразбуральным.

Сяргей САНЬКО.
г. Мінск.

Дзядзька КАРУСЬ

# Беларуская мова ў казённай школе

— Чаму вы, беларусы, так скора адракаецеся ад свайго народу?—пытаў у мяне калісь-та мой стары вучыцель. Я ня ведаў, што сказаць на гэта. Толькі я стаў думаць, — і праўда, мы цураемся свайго роднага народу.

Цяпер я ўспомніў нашую гутарку з маім старым вучыцелем. Кажу «цяпер», бо цяпер, як беларусам далі права гаварыць і пісаць на сваёй мове і як паявілася першае беларускае пісанае слова, багата знайшлося праціўнікаў беларускае мовы. Адны кажуць: «Нашто беларуская мова? Нашто падымаць яе з магілы?»

Другія гаворуць, што мова беларуская брыдкая мова... І многа чаго гаворуць праціўнікі беларускае мовы. Адкуль жа гэтакія нападкі на беларускую мову? Чаму беларуская мова «мёртвая» мова? Чаму рэжа яна вушы нават таму ж самаму беларусу, каторы выйшаў з простага народу, інтэлігенту-беларусу? Каб адказаць на ўсё гэта, трэ быць знаёмым з гісторыяю нашага краю, з характарам унутранай расейскай казённай палітыкі. Аб гэтым гаварыць пакуль што не пазваляець многа прычынаў. Скажу толькі, як выковываецца беларус-інтэлігент, каторы потым цураецца свайго ўсяго роднага.

Маленькі хлопчык-беларус вучыцца ў школе. Цэлых пяць або і шэсьць гадоў ходзіць ён у школу. Ці чуе ж ён там сваё роднае слова? Не. Ён чуе адну толькі насьмешку над сваёю моваю; а забудзецца часта, вырвецца ў яго сваё роднае слова, тое слова, каторым прывык ён ад пялёнак гаварыць з таткам і маткаю,— вучыцель, а за ім і ўсе вучні падымаюць яго на сьмех.

А другі вучыцель яшчэ перадражніць, перакрывіць яго.

Бедны хлопчык спачатку нават ня ведае, што ён злога зрабіў, што і крывяць яго, і сьмяюцца з яго.

І толькі потым ён, як пасьмяюцца з яго разоў дзесяць, расшалопае прычыну сьмеху. Той, хто вучыў і гадаваў беларускіх дзяцей гэтак, то мусіць зразумець, што сьмех вучыцеля ў такіх прыпадках падтрымаюць толькі старшыя вучні, тагды як маленькія ня бачаць у гэтым нічога сьмешнага і маўчаць. Чаму?

А таму, што старшыя самі прайшлі гэтую дарожку. Такім спосабам засяваецца нянавісьць у душу будучага інтэлігента-беларуса к роднай мове, звычаю, парадкам. З народнае школы беларус ідзе далей. Скажам, паступіў у сэмінарыю. А там усё прынароўлена дзеля таго, каб ня толькі забіць уканец у беларуса ўсё тое беларускае, што яшчэ асталося ў душы яго, але каб з яго зрабіць пакорную авечку, забіць мазгі, адным словам, выпусьціць у сьвет балванчыка. І пасьля сэмінарскае адукацыі беларус часам скажа няўмысьля гдзе-небудзь у кумпаніі беларускае слова — яму ўжо брыдка. Твар з сораму чырванее да самых вушэй.

Не, галубочкі! Не беларуская мова рэжа вам вушы, скрабе душу, а рэжуць вам вушы і скрабуць вашую душу тыя далёкія ўспамінаньні сьмеху над вамі, каторым сустрачалі вашае слова ў школе. Ва ўсе часы вашага вучэньня выстаўлялі на сьмех беларускую мову, тапталі ў балота ўсё ваша роднае. Не сваімі вачамі глядзіце вы на беларуса, не сваімі вушамі прыслухваецеся вы да яго мовы. От чаму беларуская мова здаецца вам нехарошаю.

Што раз памёрла, тое больш ня жыве. А што жыве, тое не памёрла. Не называйце ж беларускае мовы «мёртваю моваю».

Як беларуса ні гналі, як яго ні душылі, як ні таптані яго ў балота, усё ж такі ён захаваў сваю мову. І вы адбіраеце права ў беларуса чытаць кніжку й газэту на роднай мове. І гэтае права адбіраюць тыя, хто быццам стаіць за свабоду народу!..

(Наша Ніва, Вільня, 22 снежня 1906 г., № 7)

(Дзядзька Карусь — псеўданім К. Міцкевіча (Якуба Коласа))

# Закладайма беларускія школы!

П. Станіч

Быў час, калі з гэткім прызывам ня трэ' было зварочвацца да беларускага народу, быў некалі час, калі ўвесь вольны і незалежны беларускі народ вучыў сваіх дзяцей працаваць для свае Бацькаўшчыны ў сваёй беларускай школе і ўсялякую намову да чужое школы лічыў бы сабе за зьнявагу.

Але прыйшлі хмарныя, чорныя дні для нашае Бацькаўшчыны. Чужнікі пачалі працягваць на нашую свабоду свае прагавітыя рукі. Пачаўся чужы ўплыў. Свабода і роўнасьць пачалі гінуць у Беларускім Народзе; сталі вытварацца паны. Паны пачалі здраджаць свой народ, прадаваць інтарэсы свайго краю чужнікам і самі ўбірацца ў чужую скуру. І гора настала ў Беларусі; ад зьдзеку і ўціску чужнікоў і прадажных паноў застагнала ўся зямля. З дужога і багатага беларускі народ за якісь час стаўся галечаю і панскім слугоюпрыгоньнікам. Каб-жа зусім не баяцца беларускага народу, паны пастанавілі вырваць з грудзей народу жаданьне вярнуць сваю даўнейшую свабоду і долю. З гэтай мэтаю чужнікі забаранілі закладаць нашыя школы і прымушалі беларускіх дзяцей вучыцца ў іхных школах, ды ўсюды — у школах і вонках — умаўляць народу, што ён, як і ўсё яго народнае — благое, а іх панскае добрае і дарагое.

Паны-чужнікі дабіліся свайго: пагалелы і пакрыўджаны да астатку беларускі народ памалу стаў думаць, што й запраўды паны штосьці надзвычайнае, а ён, народ, нічога ня варты і ўсе яго скарбы і багацьці, і найдаражэйшы яго скарб, найвялікшае яго багацьце і харастгво — яго родная мова — мала вартая, а лепшая і харашэйшая мова чужа-панская расейская ці польская. Сталася найгоршае: ужо ня толькі цёмны народ пад прынукаю працаваў на чужнікоў-паноў, але й пакончыўшыя чужыя школы адукаваныя сыны народу цураліся сваіх бацькоў, свайго народу ды самахоць працавалі на чужнікоў. Здавалася, усё ўжо згінула.

Але гэта толькі здавалася. Сьвятло праўды не магчыма ўвесь час ухаваць ад людзей, і беларускае сьвятло праўды не магло быць назаўсёды схаванае. Спачатку жменька людзей, а потым што раз болей і болей даведваліся, дзе праўда, пазнавалі сваю сьвятую праўду і браліся шчыра працаваць дзеля адраджэньня свайго народу, дзеля здабыцьця яму волі, правоў і шчасьця. Цяпер ужо ёсьць надта шмат людзей, якія аддаюць усе свае сілы дзеля адраджэньня беларускага народу і з кожнай часінаю лік гэткіх людзей более. Цяпер ужо беларускі народ, парупіўшыся, можа здабыць сабе зямлю, палепшыць сваё жыцьцё, і можа сьцінуць так сама і духоўную няволю, якая прымушае яго лічыць сябе і ўсё сваё нічога ня вартым. А каб гэта ўсё сталася, трэба закладаць беларускія школы. Беларускія школы ўзгадуюць нам людзей, што ня будуць цурацца, а любіць сваіх бацькоў і свой народ. Беларускія школы ўзгадуюць людзей, што змогуць здабыць і абараніць беларускаму народу яго свабоду, правы і шчасьце.

Дык закладайма беларускія школы!

(Беларускі каляндар на 1922 год. Вільня, 1921, с. 33—34)

(П. Станіч — псеўданім Пётры Станкевіча)

## З паштовае скрынкі «Нашай Нівы»

Капыль Мінск. губ. Цішку Гартнаму: Вы пішэце: «Як маланка пасрэдзь ночы цёмнай заблішчала дзеля мужыка «Наша Ніва». Як сонца сабірае плянэты і камэты, сабрала яна працоўнікоў і сьвецiць-міргае на ўсю Беларусь адна сваім сьветам... Мы, цёмныя і забітыя мужыкі, паддзержымо вас, паслухаемо вашых праўдзівых слоў...»

На гэта мы адкажэм: «Бісмарк сказаў, што газэты — гэта сёмая вялікая дзяржава, а па нашаму — газэта павінна пушчаць сьвет на людзей, каб прабудзіць у іх усе пачуцьці чалавека і грамадзяніна; кожны чалавек мае ў сэрцы як-бы люстэрка, і вось, калі сьвет газэты якраз зможэ трафіць у гэтае люстра і адбіцца назад у «Нашу Ніву», тагды і наша газэта мацней засьвеціцца. Нехай жэ будзе больш такіх люстраў!

(Наша Ніва, Вільня, 22 студзеня 1909 г., № 2)

Старонку падрыхтаваў Зміцер Санько.

# РЭСПУБЛІКАНСКАЯ РАДА ТБМ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

1. Белакоз Алесь Мікалаевіч, Мастоўскі раён
2. Брыль Іван Антонавіч, г. Мінск.
3. Бураўкін Генадзь Мікалаевіч, г. Мінск
4. Бутэвіч Анатоль Іванавіч, г. Мінск
5. Вайтовіч Яўген Канстанцінавіч, г. Мінск
6. Васілёнак Мікалай Іванавіч, г. Мінск
7. Васьковіч Уладзімір Кузьміч, г. Мінск
8. Вітушка Сяргей Уладзіміравіч, г. Мінск
9. Вячорка Валянцін Рыгоравіч, г. Мінск
10. Гайдук Мікола Раманавіч, г. Беласток
11. Гарэцкі Радзім Гаўрылавіч, г. Мінск
12. Гілевіч Ніл Сымонавіч, г. Мінск
13. Грыцкевіч Анатоль Пятровіч, г. Мінск
14. Дамашэвіч Уладзімір Максімавіч, г. Мінск
15. Дзямчук Міхась Іванавіч, г. Мінск
16. Законнікаў Сяргей Іванавіч, г. Мінск
17. Калеснік Уладзімір Андрэевіч, г. Брэст
18. Каўка Аляксей Канстанцінавіч, г. Масква
19. Клышка Анатоль Канстанцінавіч, г. Мінск
20. Клімуць Яраслаў Іванавіч, г. Магілёў
21. Краўчанка Пётр Кузьміч, г. Мінск
22. Кузьміч Вольга Аляксандраўна, г. Мінск
23. Куліцкі Алег Мечыслававіч, г. Мінск
24. Купава Мікола Мікалаевіч, г. Мінск
25. Лойка Алег Антонавіч, г. Мінск
26. Лыч Леанід Міхайлавіч, г. Мінск
27. Ляшковіч Вячаслаў Антонавіч, г. Маладэчна
28. Мальдзіс Адам Іосіфавіч, г. Мінск
29. Маслюк Валеры Васілевіч, г. Мінск
30. Міхноўскі Мікола Уладзіміравіч, г. Мінск
31. Навумчык Антон Іосіфавіч, г. Віцебск
32. Нерад Ніна Сільвестраўна, г. Мінск
33. Нічыпаровіч Станіслаў Антонавіч, г. Мінск
34. Падлужны Аляксандр Іосіфавіч, г. Мінск
35. Паўлаў Міхась Уладзіміравіч, г. Віцебск
36. Плыгаўка Лілія Леанідаўна, г. Баранавічы
37. Прашковіч Лідзія Іванаўна, г. Мазыр
38. Прыма Галіна Сяргееўна, г. Мінск
39. Пятрэнка Мікалай Макаравіч, г. Полацк
40. Раманцэвіч Валянціна Карлаўна, г. Мінск
41. Садоўскі Пётра Вінцэнтавіч, г. Мінск
42. Санько Зміцер Фёдаравіч, г. Мінск
43. Саўчык Аляксей Сымонавіч, г. Гродна
44. Сачанка Барыс Іванавіч, г. Мінск
45. Содаль Уладзімір Ілліч, г. Мінск
46. Тарасюк Любоў Канстанцінаўна, г. Мінск
47. Тумаш Генадзь Змітравіч, г. Мінск
48. Тычка Галіна Казіміраўна, г. Мінск
49. Фядосік Анатоль Сымонавіч, г. Мінск
50. Хадоркін Міхал Фёдаравіч, г. Гомель
51. Хілько Мікалай Іванавіч, г. Слуцк
52. Цумараў Яўген Аляксандравіч, г. Мінск
53. Цыхун Генадзь Апанасавіч, г. Мінск
54. Шаранговіч Васіль Пятровіч, г. Мінск
55. Штэйнер Іван Фёдаравіч, г. Гомель
56. Шушкевіч Уладзімір Канстанцінавіч, г. Лепель
57. Шыдлоўскі Адам Вікенцевіч, г. Мінск
58. Янкоўскі Фёдар Міхайлавіч, г. Мінск

# САКРАТАРЫЯТ РАДЫ ТБМ

Гілевіч Н. С. — старшыня Рады
Падлужны А. І. — намеснік старшыні
Садоўскі П. В. — намеснік старшыні
Цумараў Я. А. — намеснік старшыні
Вітушка С. У.
Клышка А. К.
Куліцкі А. М.
Лыч Л. М.
Міхноўскі М. У.
Сачанка Б. І.
Тычка Г. К.
Санько З. Ф.
Тарасюк Л. К.

# РЭВІЗІЙНАЯ КАМІСІЯ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Кійка Мікола Уладзіміравіч — Мінск
Сіпакоў Іван Данілавіч — Мінск
Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч — Гродна
Юшкевіч Генадзь Уладзіміравіч — Мінск
Акуліч Вольга Аляксандраўна — Мінск
Барташ Лявон Рыгоравіч — Масты
Белы Анатоль Яфімавіч — Мінск
Раманоўскі Анатоль Уладзіміравіч — Мінскі раён
Красней Віктар Пятровіч — Мінск.

# КАМІСІІ ТБМ

1. Арганізацыйна-прапагандысцкая (старшыня Яўген Цумараў)
2. Адукацыйная (Пётра Садоўскі)
3. Камісія па выпрацоўцы тэрміналогіі (Уладзімір Арлоў)
4. Камісія па ўдасканаленні правапісу (Генадзь Цыхун)
5. Камісія па культуры мовы (Анатоль Клышка)
6. Камісія па моўных скарбах (Янка Саламевіч)
7. Камісія па зрокавым і гукавым афармленні жыццёвага асяроддзя (Мікола Купава)
8. Камісія па сувязях з суайчыннікамі за межамі рэспублікі і СССР (Барыс Сачанка)
9. Камісія па тапаніміцы (Леанід Лыч).
10. Выдавецкая камісія (Зміцер Санько).

# СУПОЛКІ ТБМ ЗА МЕЖАМІ БССР

Маскоўскае таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны.
Крымская сябрына беларусаў імя Максіма Багдановіча.
Беларускае культурнае таварыства ў Кохтла-Ярве (Эстонія).
Ленінградскае таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.
Беларускае культурнае таварыства «Грунвальд» у Таліне (Эстонія).
Сябрына «Беларусы Сібіры» ў Новасібірску.
Таварыства беларускай культуры «Сьвітанак» у Рызе (Латвія).
Беларускае культурнае таварыства «Сябрына» ў Вільні.
Таварыства беларускай мовы ў Лондане (Вялікабрытанія).
Таварыства беларускай мовы імя Максіма Багдановіча ў Запарожжы (Украінская ССР).
Таварыства беларускай мовы ў Беластоку (Польшча).
Таварыства беларускай мовы ў Нью-Йорку (ЗША).

## ДЗЯКУЕМ

за ахвяраванні ў карысць ТБМ імя Ф. Скарыны:

| | |
|---|---|
| — Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў БССР | 100 руб. |
| — Уладзіміру Арлову | 50 руб. |
| — Валянціне Юбко | 35 руб. |
| — Ніне Мацяш | 300 руб. |
| — Інстытуту мовазнаўства АН БССР | 500 руб. |
| — Міністэрству народнай адукацыі БССР | 3000 руб. |

Наш рахунак — 700510 у Беларускім рэспубліканскім Жылсацбанку.




Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.

Бюлетэнь выходзіць раз на месяц. Выданне безганарарнае.

МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». Наклад 10 000. Заказ 2174.